# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 13 (1257) ГОД XXV 30 САКАВІКА 1980 г. ЦАНА 1 ЗЛ.


## ПАД „ЗАЛАТОЙ ВЕХАЙ"

Разам з сялянамі з Беластоцкага ваяводства трапіў я да **Багуслава Астроўскага,** які жыве і гаспадарыць у **Кнышыне.** Дагэтуль не даводзілася мне бываць у гэтым наваколлі, хаця за 20 гадоў працы ў „Ніве" паспеў ужо звездаць усю Беласточчыну. Але туды, у Кнышын, „Ніва" не даходзіць і беларускай гаворкі тут ужо зусім не пачуеш. Сябры, якія мяне ведалі, не скрывалі свайго здзіўлення, чаго я там шукаю. **А я шукаў каштоўнага сялянскага вопыту, які дапамагае лепш, болей карысна і эканомна выкарыстаць тое спрадвечнае багацце, якім дорыць нас Зямля-карміліца.**

Яшчэ ў аўтобусе ўдзельнікі гэтай „выцечкі" абменьваліся сваімі заўвагамі. Найбольш спадабалася мне такая вось крылатая думка:

*„Хто букаты, той багаты, а хто малако — мае ў ПКО".*

Багуслаў Астроўскі мае адно і другое. У адным будынку, што рассеўся з левага боку панадворка і яшчэ пахне новенькай цэглай, **разводзіць ён букатаў,** значыць вядзе адкорм цялят, а ў другой аборы, той што з правага боку ягонай сялібы — **гадуе ён малочных кароў.**

Пасярэдзіне панадворка стаіць у яго

## ХТО БУКАТЫ...

калодзеж, які толькі з назвы астаўся калодзежам, бо цяпер ператварыўся ён у механізаваную вадакачку або гідрафорню, як у нас вельмі разумна называюць цяпер гэтае абсталяванне для падачы вады. Як многае іншае з нашага нядаўняга першабытнага сялянскага жыцця, адыходзіць у гісторыю і гэты абразок, калі гаспадар кожны дзень гнаў сваіх каровак да броду, каб напіліся крынічнай вады, а калі далёка было да рэчкі, выпускаў іх да калодзежа, або і сам браў вёдры і насіў красулям ваду ў хлеў.

У Багуслава Астроўскага — амаль **сто штук букатаў і 26 штук кароў,** з якіх 12 дойных, вядома, тады былі яны дойнымі, калі мы там знаходзіліся. Дзе ж такую колькасць жывёлы ганяць да вадапою або паіць уручную? Дапамагае тэхніка. Захоча карова або гэты букат піць, націскае мордай клапан у паідле — і вада цячэ проста пад язык...

— Горш, — заўважае нейкі селянін, — як адключаюць электраэнергію, што здараецца зараз амаль штодзённа, тады і гідрафорня спыняе працу, а ўручную... для такой колькасці жывёлы...

Так, гэта цяжкасці нашага паскоранага гаспадарчага развіцця. Аднак з недахопам вады пакуль што вялікай бяды не маем. Мяне, ды не толькі мяне, перш за ўсё цікавіла асноўная праблема: **як і чым пракарміць такую колькасць жывёлы?**

— Маю 15 гектараў сенажацей і пасбішчаў ды яшчэ 10 гектараў ворнай зямлі, — паясняе гаспадар.

— Гэта даволі многа, але ці дастаткова?

Тут гаспадар не рашыўся на адназначна сцвярджальны адказ.

— Па-рознаму бывае, — сказаў ён. — Але стараюся быць самастойным. Тады ж аўтаматычна павышаецца рэнтабельнасць гаспадаркі, калі свой корм.

— А я сумняваюся ў гэтай рэнтабельнасці, — заўважыў адзін старэйшы вусаты ўдзельнік „выцечкі". — Я таксама займаюся букатамі, — гаварыў ён, —

(Працяг на стар. 4)




**На роднай зямлі.** Вярба на беразе р. Белая пад Бельскам. Малюнак Б. Рудкоўскіна.

## ТОЛЬКІ АДНО ПЫТАННЕ

Мы звярнуліся да начальнікаў гарадоў і гмінаў Беластоцкага ваяводства з пытаннем:

**— Што вы лічыце за найважнейшае грамадска-гаспадарчае дасягненне ў гміне ў мінулым годзе?**

Сёння адказвае:

**Інж. ЯН СЕМЯНЮК, начальнік Бельскай гміны:**

— Поспехі ў дзейнасці супрацьпажарных камандаў і гмінна-гарадскога праўлення ОСП. Старшынёю гмінна-гарадскога праўлення ОСП з'яўляецца Міхал Чаламей (сакратар гміны), камендантам гмінна-гарадскіх саюзаў ОСП — Уладзімір Парфенюк і кіраўніком грамадска-адміністрацыйнага і агульнага сектара гміннага ўпраўлення — Мікалай Якубюк.

У 1978 годзе Бельская гміна заняла першае месца ў ваяводстве (у ім 49 гмінаў) у конкурсе „Мая гміна без пажара" і была ўзнагароджана пераходным кубкам ваяводы. Вынікі за 1979 год добрыя. Яны дазваляюць нам мець надзею, што кубка не аддамо. Праўда, давялося шмат папрацаваць. Мы кожную вясну вядзем кантрольны агляд у 3 649 вясковых гаспадарках, арганізуем вясковыя сходы на супрацьпажарныя тэмы з удзелам членаў ОСП, на якіх растлумачваем найчасцейшыя прычыны ўзнікання пажараў і як іх ліквідаваць. У 1979 годзе адбылося ажно 413 такіх сходаў. У 1978 і 1979 годзе ліквідавалі 136 будынкаў, у якіх лёгка мог успыхнуць пажар. Стражакі ў грамадскім пачыне адрамантавалі супрацьпажарныя басейны ў Арэхавічах, Гусаках, Кнарыдах, Мокрым, Піліпках і Саках. Адрамантавалі яны рамізы ў Мокрым, Кнаразах і Галадах. У 1978 годзе пабудавалі стражацкую рамізу ў Плоціцах (у ёй пасяліўся таксама клуб „Рух") і ў 1979 годзе — у Лубіне Касцельным. Стражацкая раміза каштавала 882 тысячы злотых. Грамадскі ўклад у пабудову склаў суму 492 тысячы злотых.

У мінулым годзе было на чатыры пажары менш, чым у 1979 годзе, і на 1 млн. 430 тысяч злотых матэрыяльных затрат менш, чым у 1978 годзе.

Адзінка ОСП у вёсцы Аўгустова заняла першае месца ў ваяводскіх спаборніцтвах супрацьпажарных камандаў і другое месца на занальных спаборніцтвах, у якіх удзельнічалі каманды з шасці ваяводстваў. Яна заваявала каштоўнейшыя ўзнагароды. Неабыякавы для нас гэты поспех.

Падрыхтаваў **Я. Целушэцкі**

## НА КУЛЬТУРНАЙ НІВЕ

Добра працуе клуб прэсы і кніжкі ў вёсцы Дабрывада ў Кляшчэлеўскай гміне. Ужо пяць гадоў вядзе яго Марыя Смык. Яна ўмее ўключыць у культурную дзейнасць моладзь (у гуртку ЗСМП тут больш 20 чалавек). Маладзёжную арганізацыю ўзначальвае Вольга Якубоўская. Вялікую дапамогу ў арганізаванні культурных мерапрыемстваў аказвае Марыя Клімовіч, старшыня гміннай арганізацыі ЗСМП. У 1979 годзе ў Дабрывадзе з нагоды Дня дзіцяці старэйшая моладзь арганізавала дзецям фэстын. Найперш усе дзеці праспявалі песню „Няхай заўсёды будзе сонца". Пасля адбыліся спартыўныя спаборніцтвы ў форме розных гульняў на прыклубнай пляцоўцы. Для дзяцей старэйшага ўзросту былі ўладжаны больш патрабавальныя спартыўныя канкурэнцыі. На мачце павяваў алімпійскі флажок. Панавала атмасфера амаль што вялікай алімпіяды. Пераможцы ўзнагароджваліся медалямі. Яны станавіліся для дэкарацыі на спецыяльна змайстраваным падвышэнні. Пасля спартыўных мерапрыемстваў быў час на адпачынак і ласункі. Пра салодкі пачастунак паклапаціліся жанчыны, члены 43-асабовага гуртка КГВ. Затым мастацкая частка. Дзеці спявалі песні, дэкламавалі вершы, удзельнічалі ў конкурсе пад назвай „Нарадзіны нашай Айчыны". Фэстын закончыўся танцамі. Удзельнікі яго занатавалі аб ім у клубнай хроніцы: „Было гэта мерапрыемства, поўнае сонца і радасці". Аб дзіцячым фэстыне ўспамінаюць з прыемнасцю і цяпер. Не толькі дабрывадцы, але і жыхары шырокага наваколля. А варта дадаць, што Дабрывада гэта не малая вёска. Складаецца яна з 115 двароў. І амаль з кожнай хаты нехта быў удзельнікам фэстына. Гледачоў было многа. У арганізацыю фэстына актыўна ўключыліся СКР і спулдзельчы банк. Работнікі гэтых устаноў купілі ўзнагароды для найлепшых спартсменаў, для актыўных спевакоў, дэкламатараў і пераможцаў у конкурсах і згадуй-згадулях.

Быў гэта пераломны момант у працы клуба „Рух". Дабрывадская моладзь задумала абсталяваць адну з пяці пакояў выключна для дзіцячых заняткаў (у гэтым будынку раней была школа). У




лістападзе Аляксандр Сідарук і Мікалай Маркевіч аднавілі сцэны, і Марыя Клімовіч намалявала на іх сцэнкі з папулярных дзіцячых казак. Яна запраектавала таксама камін. Пабудаваў яго яе бацька Мікалай Клімовіч. Сяргей Смык зрабіў паліцы на дзіцячыя настольныя гульні, грампласцінкі, праігрывацелі і кніжкі. Са ствала бярозы зрабіў арыгінальны свечнік і нарэзаў бярозавых пянёчкаў для сядзення ля каміна. Фіранкі і заслоны на вокны, дзіцячыя настольныя ігры, грампласцінкі з казкамі, цацкі на ёлку — усё гэта купілі для дзяцей работнікі гміннага ўпраўлення ў Кляшчэлях. У дзіцячы зал прыдбалі яшчэ дываны і столікі. Усё атрымалася цудоўна. Урачыстае адкрыццё дзэтзала, адбылося 24 снежня мінулага года. Кожнае дзіця, уваходзячы ў сярэдзіну, мела за задачу развязаць адзін вузельчык у сетцы са стужак, якую павесілі ля ўваходу. Выстаўку сваёй ручной вышыўкі адкрыла Крыстына Смык (вучаніца 8 кл.). У пачатку бягучага года дзеці наладзілі навагодні баль, на які запрасілі адначасова ў Дашоў і Кляшчэляў. Кожнае дзіця пераапранулася за падыходзячага для сябе героя з вядомых казак. Былі тут і сняжынкі, і гномы, і варожкі, ды нават кароль. Усе весела гулялі пад гукі аркестра на чале з гарманістам Пятром Блышчуком. Для выступленняў прыдалася невялічкая самаробная сцэна. У клубе можна пагуляць у пінг-понга. Стол купіла моладзь за свае грошы.

Тут адбываюцца ўсе важнейшыя вясковыя сходы, заняткі ў рамках школы па грамадска-палітычнаму абучэнню жанчын (вядуць іх работнікі беластоцкага збожжа-млынарскага прадпрыемства і прадстаўнікі гмінных улад), маладзёжныя і вясельныя танцы, сустрэчы з раднымі (апошнім часам сустракаўся тут з выбаршчыкамі I сакратар ГК ПАРП Аляксандр Смалікоўскі), сустрэчы з акцёрамі (у канцы мінулага года выступіў з песнямі варшаўскі акцёр Леапольд Баркоўскі), урачыстыя вечарыны з нагоды імянін ці нарадзін з цікавай праграмай, дыскатэкі. Усіх культурна-асветных мерапрыемстваў, якія тут адбываюцца, не злічыць. Пра іх сведчаць запісы Марыі Клімовіч і здымкі фотааматара, старшыні грамад-

Працяг на стар. 4

## ХРОНІКА

Справаздачна-выбарная кампанія ў БГКТ набліжаецца да канца. У апошні час адбыліся сходы ў наступных мясцовасцях.

■ У Кнышэвічах (гміна Шудзялава) прысутных на сходзе было больш як 20 чалавек. Падсумавалі яны працу гуртка, меркавалі аб далейшай яго культурнай дзейнасці, а пасля выбралі новае праўленне, у склад якога ўвайшлі наступныя асобы: Язэп Малішэўскі — старшыня, Лявон Пац — сакратар, Іван Усцілка — скарбнік. 7 асоб выказала жаданне ўступіць у рады БГКТ. Ад імя гурткоў у Кнышэвічах і Слоі паедзе на з'езд БГКТ Язэп Малішэўскі.

■ У Слоі (гміна Шудзялава) члены БГКТ на сваім справаздачна-выбарным сходзе найбольш увагі прысвяцілі неабходнасці рамонту святліцы, якая была ў мінулым пабудавана грамадскім чынам. У новае праўленне ўвайшлі: Марыя Суравец — старшыня, Анна Пятроўская — намеснік старшыні, Іван Суравец — сакратар, Лешак Зелянкевіч — скарбнік. У Кнышэвічах і Слоі ў сходах брала ўдзел інспектар ГП Марыя Максімюк.

■ У Дубне (гміна Боцькі) нашыя сябры гаварылі аб неабходнасці большага кантакту гуртка з ГП БГКТ і арганізацыі ў іх вёсцы выступленняў мастацкіх калектываў з беларускім рэпертуарам. Новае праўленне гуртка складаецца з найбольш актыўных людзей: Ірэна Аляксеюк — старшыня, Уладзімір Аляксеюк — намеснік старшыні, Зінаіда Малец — сакратар, Марыя Гуль — скарбнік, Анатоль Аляксеюк і Мікалай Базылюк — члены праўлення. На сходзе 22 асобы падпісалі членскія дэкларацыі БГКТ. Сход абслужыў інспектар ГП Міхаіл Вішанка. **(мх)**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### КОЛЬКІ НАС?

У студзені мінулага года ў СССР быў праведзены Усесаюзны перапіс насельніцтва. У Беларускай ССР на 17 студзеня 1979 года налічвалася 9 мільёнаў 559 тысяч жыхароў. У Мінску жыве 1 мільён 262 тысячы чалавек.

### ЧАЦВЕРТЫ КАЛІЙНЫ

Уступіла ў строй першая чарга Чацвёртага салігорскага калійнага завода. З выхадам яго на поўную магутнасць — 5,5 мільёна тон у год — звыш паловіны калійных угнаенняў у краіне будзе выпускацца з маркай вытворчага аб'яднання „Беларусь-калій".

### *КАЛЯНДАР*

**295 гадоў назад**

31.3.1685 нар. І. С. Бах, нямецкі кампазітар.

**230 гадоў назад**

1.4.1750 нар. Г. Калонтай, польскі асветнік, грамадскі дзеяч, філосаф.

**175 гадоў назад**

2.4.1805 нар. Х. К. Андэрсен, дацкі пісьменнік, аўтар сусветна вядомых казак.

**140 гадоў назад**

2.4.1840 нар. Э. Заля, французскі пісьменнік .

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. pocst. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1158-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 543. Nakład 7.900 I-2





*На рацэ Бярэзіне.* *Фота Уладзіміра Казлова*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

## На запаведных сцежках

*У праекце праграмы ЮНЕСКА „Чалавек і біясфера" вялікая ўвага вызначаецца стварэнню сусветнай сеткі біясферных запаведнікаў. Першым сярод запаведнікаў СССР у гэтую сетку залічаны Бярэзінскі запаведнік, унікальны куток беларускай прыроды.*

Запаведнікі (у Польшчы — рэзерваты прыроды, дзе цалкам забаронена паляванне, рыбная лоўля, высечка дрэў і іншая гаспадарчая дзейнасць) і заказнікі (у Польшчы — частковыя рэзерваты, дзе прыродныя багацці выкарыстоўваюцца часткова ў акрэслены тэрмін) займаюць амаль пяць працэнтаў тэрыторыі Беларусі. Кожны з іх своеасаблівы і цікавы. Бярэзінскі запаведнік выключны. Гэта цэлы свет. „У нашым лесе, — кажа дырэктар запаведніка Юрый Чычыкін, — у чалавека кожную хвіліну мяняецца настрой. І ўвесь час узнікаюць новыя адчуванні. Гэта ад мноства ўражанняў".

На абшары сямідзесяці шасці тысяч гектараў прасціраецца запаведнік. Прыкладна дзве трэція гэтай тэрыторыі пакрыты лясамі. Калісьці, перад рэвалюцыяй, гэтае зялёнае багацце, гэтая лясная краса бязлітасна знішчалася. Савецкі ўрад, нягледзячы на цяжкі для краіны час, стаў бараніць „зялёнага сябру".

Надышоў час — і лес адудзячыўся чалавеку за дабрату і апеку. У гады Вялікай Айчыннай вайны вялікі лясны масіў, які захаваўся ў някранутым стане, стаў схоўкам і прыстанкам для многіх тысяч беларускіх партызанаў. На тэрыторыі запаведніка размяшчалася 18 партызанскіх брыгадаў і атрадаў. Каля трох дывізій гітлераўскіх захопнікаў знайшлі свой ганебны канец у лясах над ракой Бярэзінай.

Запаведныя лясы патрабуюць такіх людзей, якія ў кожную хвіліну гатовы стаць у іх абароне і для якіх жыццё сярод гэтай раскошнай прыроды — не адпачынак, а праца. Такія і працуюць у Бярэзінскім запаведніку, яны ўсё жыццё прысвяцілі лесу. Леснікі Пётр Кавалёў, Іван Купейчык, кіраўнік заалагічнага музея Лявон Колбін, які нарадзіўся і вырас тут. Жыве таксама тут чалавек з вельмі рэдкімі ўменнямі — таксідэрміст Антон Хацкевіч. Экспанаты ў музеі — а іх тут болей за тысячу — чучалы звяроў, птушак, рыбаў, гадаў зроблены з такім майстэрствам, што міжвольна выклікаюць захапленне ў наведвальнікаў. Усё гэта праца Антона Хацкевіча і яго вучняў.

Дзевяць лясніцтваў і група аховы лясных звяроў — 40 інжынераў і тэхнікаў, многа леснікоў і паляўнічых, дзесяткі рабочых удзень і ўночы ахоўваюць „зялёнага сябру" ад розных непрыемнасцей. Кожны год прачышчаюць каля трохсот кіламетраў лясных граніц і трыбаў, заворваюць пяцьсот кіламетраў проціпажарных палосаў, даглядаюць маладняк. Асаблівая прыкмета: за апошнія шэсць год у запаведніку не было ніводнага пажару. А ён жа знаходзіцца ў густанаселеным раёне Беларусі.

Ёсць у запаведніку асаблівае месца — зона абсалютнай недатыкальнасці. Асаблівы дух пануе ў гэтым лесе. Тут вастрэй і паўней адчуваеш веліч і нязменнасць законаў, паводле якіх жыве прырода. У гэтым месцы чалавек ні ў што не ўмешваецца. Паміраюць старыя дрэвы, падаюць, ніхто іх не забірае. Кожнае ўмешванне ў прыроду ў зоне абсалютнай недатыкальнасці забаронена — гэта робіцца дзеля таго, каб паназіраць за натуральнай эвалюцыяй прыродных комплексаў.

Разнастайныя лясы ў запаведніку. У паўночнай яго частцы — хваёвыя масівы, у цэнтральнай і паўднёвай — лісцястыя. Тут у многіх месцах лес захаваў сваю першабытнасць. Ёсць мяшаныя пасадкі елак, дубоў, ліпаў, клёнаў, асін, ясеняў. Вакол возера Палік і па берагах ракі Бярэзіны і яе прытока Вялікай прасціраюцца лясы чорнай вольхі. Яны ўнікальныя ва ўсёй падзоне шырокалісцястых і яловых лясоў паўночна-заходняй еўрапейскай часткі СССР.

Бярэзінскі запаведнік — паказальны прыклад прыроды ўсяе Нечарназёмнай зоны Савецкага Саюза. Нямногія запаведнікі краіны могуць раўняцца з ім багаццем каштоўных і рэдкіх гатункаў раслін і звяроў.

Паводле няпоўных даных, раслінны свет запаведніка складаецца з 750 гатункаў — гэта больш за палавіну флоры Беларусі. Тут многа рэдкіх і каштоўных раслін. Яны складаюць спецыяльны спісак. Для кожнага гатунку акрэслена асяроддзе. Тут жыве 52 гатункі млекакормячых, каля 200 гатункаў птушак, восем гатункаў земнаводных, 30 гатункаў рыбаў. Але ўвесь перапіс жывёльнага свету яшчэ не закончаны, і разнастайнасць гатункаў павялічваецца новымі знаходкамі.

Да асаблівасцей запаведніка належаць дзікі, лосі, бабры, казулі, алені, мядзведзі. Між іншым, на Беларусі мядзведзі жывуць толькі ў гэтым запаведніку. Рэдка дзе ў рэспубліцы ўбачыш чорнага бусла, шэрага жураўля, пугача, скапу...

А быў такі час, калі, напрыклад, бярэзінскі бобр амаль не загінуў. Да рэвалюцыі гэтага каштоўнага звера бязлітасна знішчалі. У 1923-1924 годзе ў верхнім цячэнні Бярэзіны была знойдзена калонія баброў — усяго 20 гнёздаў. Іх адразу ўзялі пад строгую ахо-

**(Працяг на стар. 5)**




**Прыемнае спатканне ● Майстар з Клейнікаў ● На адно пытанне адказвае начальнік Юхнавецкай гміны ● Сведкі ● Літаратурная старонка ● Якія мы людзі ● Буг у агні ● Абавязацельства Дзядзькі Кваса ● Весткі з Бельска, Каралёвага Моста, Мінкаўцаў, Нараўкі, Рудут, Белавежы ● Калі сняцца вужы ● Чаму Кастусь не пускае жонку ў санаторый ● Песня „Na miłość nigdy nie jest za późno".**




**Niedziela 30 III** — 6.00 TTR i RTSS — Fiz. sem. II. 6.30 Biol. sem. II. 7.00 Nasze spotkania. 7.30 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rol. 8.20 Telewizjada. 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek TDC oraz z serii „Dick Turpin" odc. pt. „Najemnik" — film TV ang. 10.20 Antena. 10.45 Jane Googal wśród zwierząt — film dok. USA. 11.35 Dziennik. 11.50 Rolnicze rozmowy. 12.20 Poranek symf. 13.30 Tylko w niedzielę. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Tylko w niedzielę c.d.

**Poniedziałek 31 III** — 12.45 TTR i RTSS — J. pol. sem. IV. 13.25 Geogr. sem. IV. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Naucz. począt. kl. III. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Studio Młodych. 17.10 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.50 Ucieczka z krainy złota — odc. III filmu TV CSRS. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr TV — F. Dostojewski — Zbrodnia i kara. Wyst.: A. Łapicki, D. Olbrychski i M. Zajączkowska. 22.05 Świat i Polska. 22.10 Dziennik. 23.05 Trybuna literacka.

**Wtorek 1 IV** — 6.00 TTR i RTSS — J. pol. sem. IV. 6.30 Geogr. sem. IV. 11.05 Dla szkół J. pol. kl. VI. 12.00 J. pol. kl. II lic. 12.55 J. pol. kl. II lic. 13.30 RTSS — Matematyka sem. II. 14.00 Wskaz. metod. sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 16.55 Interstudio. 17.20 Studio Młodych. 17.45 Sonda. 18.10 Jaskiniowcy. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Skojarzenia — teletur. 19.30 Dziennik. 20.10 Narzeczony utknął w windzie — czech. film tel. 21.00 Salon zwierząt — pr. rozr. 21.30 Camerata. 21.55 Jak? 22.40 Dziennik.

**Środa 2 IV** — 6.00 TTR i RTSS — Mat. sem. II. 6.30 Wskaz. metod. sem. II. 11.05 Dla szkół — Hist. kl. VII. 12.00 Fiz. kl. VII. 12.45 TTR i RTSS — Mat. sem. IV. 13.25 Fiz. sem. IV. 14.30 W drodze do nowego. Jak kisić? 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Mat. kl. V. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Pan Półka i spółka. 16.55 Studio Młodych. 17.10 Dom i my. 17.25 Los. Małego i Ekspress Lot. 17.35 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.00 Skarbiec. 18.25 Kto z nim wygra — teletur. 18.50 Dobranoc. 19.00 Przyr. opow. Wł. Puchalskiego. 19.30 Dziennik. 20.10 Pan Hulot wśród samochodów — fr.-wł. film fab. 21.50 Piosenka amatorska — cz. I. 22.15 Forum korespondentów. 22.40 Dziennik.

**Czwartek 3 IV** 6.00 TTR i RTSS — Mat. sem. IV. 6.30 Fiz. sem. IV. 13.00 TTR — Hod. zwierz. sem. II. 13.30 Upr. rośl. sem. II. 14.00 Teleferie — O dwóch takich co ukradli księżyc — pol. film fab. 15.20 Program dnia. 15.25 Turniej zastępowych — Tropami wiosny. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC oraz film z serii „Złoto Huntera". 17.30 Studio Młodych. 17.45 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.10 Rep. wojsk. Czerwone berety. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 W kinematografie. 19.30 Dziennik. 20.10 Przed sądem przysięgłych — ameryk. film krym. 21.25 Pegaz. 22.10 Za co mi płacą. 22.30 Mięsopust — z cyklu „Zwyczaje i obyczaje". 22.50 Dziennik.

**Piątek 4 IV** — 6.00 TTR — Hod. zwierz. sem. II. 6.30 Upr. rośl. sem. II. 12.30 Red. szkol. zap. 12.45 Teleferie — Panienka z okienka — pol. film fab. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Filozof. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Studio Młodych. 17.10 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.50 Czterdziestolatek — odc. IX pt. „Rodzina czyli obcy w domu" — film TP. 18.40 Wyst. amb. WRL w Polsce. 18.50 Dobranoc. 19.00 Pierwszy rejs. 19.30 Dziennik. 20.10 Sierżant Rutledge — ameryk. western. 22.00 Stabat Mater — Rossiniego — koncert oratoryjny. 23.15 Dziennik.

**Sobota 5 IV** — 11.05 Teleferie — Szatan z VII klasy — pol. film fab. 13.10 Program dnia. 13.15 Obiektyw. 13.35 Dziennik. 13.50 Radzimy rolnikom. 14.00 Studio — 8. 18.50 Dobranoc. 19.00 Sherlock Holmes i Dr Watson — odc. pt. „Sprawa cętkowanej wstęgi" — film TP i TV USA. 19.30 Dziennik. 20.10 Studio — 8. Pogoda dla bogaczy cz. II film TV USA.




**Piątek 28 III** — 8.25 Film fab. 14.15 Film fab. 16.35 Film anim. 18.00 Film fab. 20.20 Panorama film.

**Sobota 29 III** — 12.45 Film fab. 15.00 Nie do wiary. 16.35 Film anim. 17.45 Koncert. 19.35 c.d. koncertu. 20.55 Międzynar. zawody gimnastyczne.

**Niedziela 30 III** — 12.00 Film fab. 14.20 Koncert życzeń. 15.00 Klub podróży. 16.45 Film anim. 20.40 Międzynar. zawody gimnast.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Księżniczka Czardasza — węg. 1—2. Cenny depozyt — fr. 3—4. Lipcowe spotkanie — czes. 5—6.
**Bielsk Podl.** Rój — USA 2. Wysokie loty — pol. 3—4. Gwiazdy poranne — pol. 5—6.
**Czyże** Ifigenia — grec. Pięć wieczorów — radz. 2—6.
**Gródek** Lampy naftowe — czes. 5—6.
**Hajnówka** Król cyganów — USA 2—4. Osąd — rum. 5—6.
**Michałowo** New York, New York — USA 1—2. Śmiertelny pościg — fr. 3—4. Powrót straconych — jug. 5—6.
**Mielnik** Kieszonkowiec — fr. 2. Ostatni bal w Rożnowie — czes. 5—6.
**Milejczyce** Placówka — pol. Dyrektor do wszystkiego — rum. 2—6.
**Narew** Na cichej stacyjce — węg. Zabójstwo chińskiego maklera — USA 2—6.
**Narewka** Skradziona kolekcja — pol. Szczęście jest tak blisko — rum. 2—6.
**Nurzec** Bajka o zmarnowanym czasie — radz. 1—2. Basen — buł. 3—4. Flic story — fr. 5—6.
**Orla** Mistrz kierownicy ucieka — USA. Stawiam na trzynastkę — czes. 2—6.
**Rajsk** Agnieszka idzie na śmierć — wł. Miecz — węg. 2—6.




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА LXVI

Адмоўны або станоўчы падыход пісьменніка да вагантызму ўзалежнены ад характару гэтага вагантызму. Колас падтрымлівае вагантызм уматываваны, такі, які вядзе чалавека да акрэсленых мэт. Паводле пісьменніка ніякія мэты не могуць быць рэалізаваны без руху і пошукаў. З другога боку, пісьменнік выступае супраць вагантызму, пазбаўленага якой-кольвек матывацыі.

Падтрымка для грамадскага вагантызму выступіла ў навелах „Гусі“ і „Залаты прамень“. У „Залатым прамені“ паказаў Колас поўны пакутамі лёс забруджанага промня, які безупынна шукае дарогі да зямлі і людзей.

„А сам залаты прамень ні на момант не спыніўся ў сваіх шуканнях дарогі на зямлю і ніколі не траціў надзеі знайсці яе, каб выпаўніць сваё прызначэнне, хоць і многа было яму перашкод у гэтым блуканні.

Наступны тэматычны круг „Казак жыцця“ датычыць патрыятызму і рэнегацтва.

Пісьменнік з болем у сэрцы прыглядаўся да раскладу нацыянальнага жыцця ва ўмовах няволі. Сваёй творчасцю стараўся ён узбудзіць у чытача прывязанасць да сваёй краіны і сваёй мовы. Тэндэнцыя гэта спалучаецца ў „Казках жыцця“ з вострым асуджэннем рэнегацтва, абыякавасці да ўсяго роднага, з асуджэннем чужых сіл, якія інгеруюць ва ўнутраныя справы беларусаў.

Галоўнае месца ў навелах такога тыпу займае алегарычная постаць айчыны, увасобленая ў вобразе Гары, Дуба, Вады. Такія імагінаваныя постаці айчыны знаходзяцца ў канфлікце з непаслушнымі „дзецьмі“, увасобленымі ў птушках, хмарках, струменях ці кроплях расы, якія вяртаюцца да айчыны толькі ў выпадку асабістых няўдач, паражэнняў. Такая трактоўка праблемы выступіла ў навеле „Крыніца“. Вось дыялаг паміж „дзецьмі“ — Кроплямі расы і „маткай“ — Гарой.

„— Ах, мілая матуля, — загаманілі кроплі, — мы прыйшлі, бо вельмі смуціліся па табе ў далёкіх няведамых краях. Мы — часткі твае роднае крынічкі, што цякла з твайго сэрца. — І расказалі аб сваім бадзянні. Гара ж сказала ім:

— За тое, што вы не паслухалі свае маткі і кінулі сваю радзіму, вы будзеце вечна кружыцца па свеце і ніколі не забудзеце сваёй жальбы па родных кутках, і нідзе не будзеце мець прытулку на свеце“.

Суровы прыгавор Айчыны ў прыведзенай навеле з'яўляецца чымсьці досыць выключным. У большасці сваіх апавяданняў пісьменнік прапануе ідэю вяртання раскіданых па свеце „дзяцей“ да сваёй айчыны, заахвочвае да ўзаемнага зразумення і паяднання. Такая тэндэнцыя праяўляецца ў выказванні Дуба, які звяртаецца да Бусла з наступнымі словамі:

„— От навука для тваіх дзяцей. Моцна пакажы ты ім, дружа, каб не лёталі дарэмна па свеце, не бадзяліся: у сваім родным кутку работы досыць для кожнага“.




**жэлезняк, -а,** мужч. — калёсы. Жэлезняком тэпэр ніхто нэ йездіт. Колісь і мы міэлі свуой жэлезняк. Заходжу до клуні, а там жэлезняка нэма.

**круг (колюос), -а,** мужч. — камплект колаў да воза. Ціэлы круг колюос дорого коштуе. Нэ маеш часамі запасного круга колюос? Як нэ маеш ціэлого круга колюос, то з роботы пока што нічого нэ будэ.

**крывулі** (у гэтым сэнсе выступаюць у множным ліку), **-юв.** — прылады для кіравання задком воза. Выкарыстоўваюцца пры звозцы дрэва. Гэта дзве драўляныя нібы-аглоблі, якія накладалі на восі і кіравалі рукамі, каб воз роўна ішоў. Колісь возілі колодкі возамі і трэба было кіроваті крывулямі. Возьмі крывулі, бо колодка будэ довга і куонь сам нэ выкіруе. Нэ бачыв нашых крывулюв.

**рожон, -а,** мужч. — гэта тая частка воза, якая падтрымоўвае драбіны, што клалі замест гнайніц у час звозкі сена або снапоў. Выконваюць тую ж ролю, што люшні. Уважай, коб нэ зачэпіў рожном за дэрэво. І то якраз мусів рожон зломатіся. Рожна другого ты нэ маеш?

*Гайнаўка (Горнае)*

# ШУКАЮЧЫ ФАЛЬКЛОРУ

Першае, што кідалася ў вочы на **IX ваяводскім фальклорным аглядзе,** які праходзіў 8-9 сакавіка 1980 года ў Гайнаўскім доме культуры, гэта самаахвярнасць яго ўдзельнікаў. Валіў густы снег, завейка заносіла дарогі сумётамі да пояса, а яны, не зважаючы на тое, калі вернуцца дахаты, ахвяраваліся на два дні з начлегам толькі дзеля таго, каб паказаць сваю ўлюбёнасць у родныя мелодыі і слова, задакументаваць вернасць найлепшым традыцыям народнага мастацтва Падляшша. У аглядзе ўдзельнічала 7 хораў а капэла, 5 вялікіх этнаграфічных калектываў, 4 спявачкі-салісткі, 6 музыкаў, 3 казачніцы — разам 173 чалавекі.



*Бельскія дзяўчаты ў „Падляшскім вяселлі“.*

Але адразу трэба заўважыць, што гэты немалы лік не адпавядаў фактычнаму стану аматарскага руху на Беласточчыне і не прадстаўляў раўнамерна яго этнаграфічных рэгіёнаў. Найбольш удзельнікаў было з ваколіц Монькаў, Тыкоціна, Дабжынева, Сямяцічаў, Заблудава, з Бельска і Боцькаў. І ў той час нікога не было з такіх багатых спевакамі і казачнікамі асяроддзяў, як Нараўка, Мілейчыцы, Мельнік, Міхалова, Гарадок, Крынкі, Дуброва Беластоцкая, Саколка і шэрагу іншых з усходняй часткі ваяводства. Сама Гайнаўка, хоць і была прадстаўлена незвычайным музыкам, бо самым праўдзівым цымбалістам, але ўсё ж толькі адным адзіным чалавекам! Таксама адзін гарманіст прадстаўляў Орлю, дзве спявачкі — Нарву. Бедненька, надта ж бедненька!



*Гайнаўскі цымбаліст Пракоп Красько.*

Вернемся, аднак, да таго, што дзеялася на сцэне. Нельга было не захапіцца выступленнем мінулагодняга лаўрэата І узнагароды („Залатой вежы“) на агульнапольскім фальклорным фестывалі ў Казімежы „Калінкамі“ з Каліноўкі Каралеўскай, што каля Монькаў. У яго песнях можна было пачуць голас Падляшша XVIII-XIX стагоддзяў — задуменны, глыбокі, пранікнуты сумам. Яму адпавядалі і строі спявачак — фальбоністыя саяны ў клетачку, вымеражкаваныя бялюсенькія фартухі, чорныя дапасаваныя наруткі. І ўласцівы нашаму рэгіёну прыём спеву: без адзінага руху постаці — уся ўвага засяроджана на мелодыі, выкананай добрымі галасамі. Сваёй непасрэднасцю пакарыў сэрца 18-асабовы этнаграфічны калектыў з Рафалоўкі, што каля Заблудава. У паказаных ім „Кудзельніцах“ удзельнічала хіба ж палова дарослых жыхароў гэтай невялічкай вёсачкі. Разам як круціліся колы калаўроткаў — віліся старадаўнія мелодыі і казкі, красачныя, свойскія. Шкада толькі, што пераклады іх з мясцовай беларускай гаворкі на польскую мову былі крыху шурпатыя. Даволі цікавыя былі выступленні калектываў з Толвіна, Новага Александрова, Длугалэнкі, Пагажалак, Кулешаў. З Бельска выступалі вядомыя „Падляшскія зязюлькі“ і „Перапёлачка“. На жаль, не паказалі яны нічога новага (у праграме было „Падляшскае вяселле“ і „Дынгус“). Адна найбольшая каштоўнасць гэтых калектываў — у іх удзельнічае адна моладзь. Музыкі з Турны Вялікай не зайгралі захапляюча, паўтарылі вядомае. Не выявіў таксама сваіх магчымасцей гарманіст Рышард Цёлэк з Казінцаў. Затое Дзмітрук з Грыгораўцаў і Аляксей Свянціцкі з Ясвілаў былі праўдзівай знаходкай. Іх віртуознае выкананне на гармоніках старадаўніх вальсаў і полек-трасух было захапляючае. Але найбольшай неспадзяванкай аказаўся Пракоп Красько з Гайнаўкі. На старэнькіх, уласнай работы, цымбалах ён вычароўваў цуды: вясельныя маршы, полькі, лявоніхі, крыжачкі. І гэта ва ўзросце больш 80 год!..

Сярод спевакоў-салістаў захапіла сваімі песнямі 75-гадовая Паўліна Адамская з Гнілой: моцны голас, даўнія песні і колішні спосаб іх выканання. Не ўступалі ёй дзве маладзіцы з Трасцянкі — **Анна Стахіюк** і **Анна** Максімчук. Выканалі яны чароўныя беларускія мелодыі са свайго роднага сяла. Найлепшае майстэрства расказваць казкі, былічкі і небыліцы паказала тая ж Паўліна Адамская. „Казала“ яна на мясцовай гаворцы, у якой мазавецкія і беларускія элементы стапіліся ў дзівосны каларытны сплаў.

Журы, што працавала пад кіраўніцтвам знаўцы народных мелодый Е. Сьрудкоўскага, не акрэслівала месц, а толькі прызнавала грашовыя ўзнагароды тым, хто прыклаў найбольш намаганняў у адкрыцці аўтэнтычных народных твораў і ўваскрашэнні колішніх спосабаў іх выканання. Для нас будзе, напэўна, прыемна ведаць, што ўзнагароды атрымалі: А. Стахіюк і А. Максімчук з Трасцянкі, П. Красько з Гайнаўкі, Л. Дзмітрук з Грыгораўцаў, А. Свянціцкі з Ясвілаў, калектыў з Рафалоўкі. Журы ўзяло на прыкмету, каго ў гэтым годзе паслаць на агульнапольскі фальклорны фестываль у Казімежы, сярод іх ёсць таксама П. Красько і Л. Дзмітрук.

І яшчэ адно. Калі ўдзельнікі агляду перамаглі непагадзь, арганізатары справна правялі ўсё мерапрыемства, то ўсё ж яны разам не змаглі адолець абыякавасці гайнаўчан да агляду — зала была амаль пустая...

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара




# ФАТА-МАРГАНА

Не аднаго з нас сустрэла фата-маргана. Шматлікія прыметы і не падазраюць аб гэтай з'яве. Але ў жыцці многа міражаў. Часта выходзіць так: думаеш адно, ды выходзіць зусім другое. Фата-маргана ў складанасці жыцця, дзе шмат з'яваў і іх кампанентаў яшчэ не дастаткова вывучаны. Аб некаторых і хачу расказаць.

I. Аднойчы я зайшоў у мясцовую сталоўку. Верхні паверх займала гасцініца. Зняў з сябе мокрую шапку. У гэты час да мяне падыйшлі двое маладых мужчын. Пачалі цягнуць да стала. Паглядзеў я на іх са здзіўленнем. Незнаёмыя людзі. Аказаць супраціўленне было немагчыма. На стале стаялі розныя напіткі. Закусь. Я быў зацікаўлены толькі адным: што ўсё гэта значыць?.. Выпіў з імі невялікую шклянячку „чыстай“ — хаця я не маю ніякай цягі да гарэлкі.

Прасядзелі мы прыблізна адну гадзіну. Як скончыўся прыём, адзін з сабутэльнікаў падміргнуў мне, сказаў: „Ну, гр. Ф. Тафаномкін, заўтра мы ўсе прыдзем да вас за вадзіцельскімі правамі!..“

Што б вы зрабілі на маім месцы? Сказаць, што я не Тафаномкін — позна. Яны маглі б мяне парадкам адлупцаваць. Я сказаў:

— Прыходзьце ў 9 гадзін.

Падзякаваў за ўсё, ды хутка адышоў. Міраж аб маёй асобе мог бы прывесці да яшчэ большага ўскладнення.

На другі дзень чуў крык, лаянку ды бразгат чарнілліцы. А не ў чым не вінаваты гр. Тафаномкін мусіў даказваць, што ён не вярблюд, ды і ніколі не сядзеў з імі за сталом.

II. Аднойчы іду я вуліцай. Раптам каля мяне затрымаўся веласіпедыст. Гэта быў падатковы агент гр. Кацко. Дык адразу да мяне з крыкам:

— Што ж вы сабе думаеце, гр. Тафаномкін?!.. Га?.. Я на вас падам за падаткі да экзекуцыі.

— Але я не... — прабаваў тлумачыцца. Дзе там. Ён і слухаць не захацеў. Тут наадварот: мне спатрэбілася даказаць, што я не вярблюд.

III. Калісьці я меў добры цяжкі матацыкл „Аво“. Дык як я ездзіў па горадзе веласіпедам, да мяне абавязкова падыходзіў адзін знаёмы ды пытаўся:

— Чаму ж гэта не матацыклам, а веласіпедам?!..

Доўга я думаў, які тут трэба даць адказ. Ужо мне астачарцела гэтае пытанне. Ды ўрэшце знайшоў:

— А вы маеце ў кішэні аловак?..

— Маю. Ну і што ж?

— А навошта ён вам? — спытаў я.

— Каб штосьці запісаць, — адказаў той.

— Дык гэта ж устарэўшы метад. Лепш было б насіць з сабою друкарскую машынку. Тады ўсё запісвалася б механічна.

Вылупіў ён на мяне вочы. Моцна здзівіўся. Да чаго ўсё гэта сказана...

— Як гэта?!.. Насіць машынку для таго, каб штосьці занатаваць?.. Такую цяжасць!..

— Ды і да крамы ездзіць матацыклам „Аво“ — таксама... цяжкасць.

Такім чынам я збавіўся ад назойлівых пытанняў.

IV. Прыходжу я да фатографа гр. Я. Іванюка. Ён мне скардзіцца, што куды б не пайшоў у гасціну, заўсёды пытаюцца ў яго:

— Чаму не з фотаапаратам?..

Тады я даў яму правільную параду. Спытайцеся іх:

— Чаму ж гэта вы прыйшлі без касы або плуга?!...

— Як то?.. З касой у гасціну? Дык гэта ж мае прылады... штодзённай працы.

— Так яно і ёсць. І фотаапарат таксама прылада маёй штодзённай працы.

V. У маладосьці мне чамусьці ўбілася ў галаву, што я магу стаць славутым спеваком.

Аднойчы мяне дапусцілі на эстрадны канцэрт з адной песняй. Калі я пачаў спяваць, заўважыў — нейкія жанчыны хустачкай выцiралі вочы... быццам плакалі. Калі я падышоў да адной з жанчын і запытаўся: „Чаго вы плачаце? — яна сказала: „Нам вельмі шкада вас, вы так мучыцеся“.

VI. Пасля няўдачы са спяваннем я вырашыў стаць прамоўцам. Начытаўся розных старажытных філосафаў — грэчаскіх, рымскіх; вырашыў, што выбіў мой час паказаць сябе...

Падрыхтаваў тэму: „Геалагічныя ўмо-

(Працяг на стар. 5)




### НА КАГО НАРАКАЮЦЬ?

У „Ніве" часта паяўляюцца выказванні чытачоў аб моладзі. Але пераважна чытачоў старэйшых. Нараканні, нараканні — галоўны тон усіх гэтых пісьмаў. Наракаюць старэйшыя, што маладыя не хочуць працаваць у полі, не хочуць памагаць бацькам, уцякаюць у гарады і т.п. Лямант гэты пачынае мяне крыху нерваваць, бо ён у многіх выпадках фальшывы і пад іншым адрасам яго трэба кіраваць.

Вось наракае бацька або маці, што сын ці дачка, якія жывуць у горадзе, прыязджаюць да іх толькі таму, каб што-небудзь выцягнуць з хаты — мяса, яйкі, грошы. А чые ж гэта дзеці? Не вашыя? Яны такія, якіх вы выхавалі. І калі іх бацькі не навучылі, што каб браць, трэба нешта даваць, то цяпер тым больш не навучыце. Дарэмныя вашыя слёзы. Не навучылі вы іх таксама пашаны да працы, да сябе, да іншых людзей. Чаго наракаць? Бадай, на сябе.

Другая рэч, якая мяне нервуе, гэта перакананне старэйшых людзей, што чалавек павінен працаваць ад рана да ночы. Той, хто пасля васьмігадзіннага дня працы, часам вельмі цяжкай, захоча адпачыць, у іх вачах ён ужо поўны гультай. І вазьмі переканай тут каго, што чалавек створаны не толькі для працы. Не ведаю, ці многія з маладых сутыкнуліся з іншым поглядам старых жыхароў вёсак, як той, што жыхар горада гэта ў большай ці меншай ступені гультай. Увогуле існуе на вёсцы перакананне, што жыццё ў горадзе вельмі лёгкае. То праўда, што там не трэба араць, сеяць. Але ці аранне, сеянне — гэта найцяжэйшая праца? У горадзе часам сам даезд да працы на фабрыку або на прадпрыемства змучыць чалавека. А прыкладаў працы больш цяжкай, чым у вёсцы, можна ў любы момант падаць кучу. Я думаю, што няма чаго вінаваціць жыхароў гарадоў у гультайстве. І тое, што яны едуць у водпуск на мора, або ў горы, а не на вёску на жніво ці бульбакапанне, не сведчыць аб іх нежаданні працаваць. Маюць на гэта права.

**Пётр Байко**

### НЕ ЎСЮДЫ РАСТУЦЬ КВЕТКІ

Як заўсёды, і цяпер прачытаў я паласку Дзядзькі Кваса „Брава, Тургенеў". Задумаўся. Дзядзька бядуе, што не давялося яму на працягу доўгага жыцця ўведаць раскошы таго, аб чым пісаў Тургенеў: „Как хорошо летом в жару лежать под разветвистым деревом и сквозь зелёную листву смотреть на голубое небо". Нават на паўгадзінкі не меў часу на гэта Дзядзька. Чысты абсурд!

А што леткам, святам, у нядзелю рабіў Дзядзька Квас? Бо сёння ў XX век, у час механізацыі, так усе зарабіліся, як баран на спасаўку, што нядзелі вольнай не маюць леткам. Для многіх людзей, (калі не для ўсіх) нядзеля стала звычайным рабочым днём. Такія прагныя сталі людзі, што і забылі, на якім свеце жывуць. Вядома, жывуць інакш, чым калісьці, заможна, маюць мяшкі грошай, але зайдзі да такога па нейкай бядзе, каб дапамог, — прагоніць як сабаку.

Тады, у час маладосці Дзядзькі Кваса, хай жылося і бедна, але людзі жылі дружней. У святочныя дні людзі святкавалі, бо так і трэба было. Вечарамі па ўсіх вёсках чуваць было разгульныя-песні. Сяляне трымаліся сваіх народных абрадаў і звычаяў, як напрыклад, „Перапеліцы". Калі ў селяніна заканчвалася жніво, жнеі абліваліся вадою, весяліліся. А сёння? Дзе пачуеш калі жніўную песню, ці нешта падобнае? Таксама і сваёй роднай мовы не трымаюцца. Абумершчына!

Яшчэ хачу вярнуцца да Тургенева. Гэта вялікі пісьменнік. І хаця ён сам выводзіўся з дваранства, аднак душою быў з народам. Хацеў, каб рускі селянін меў час паглядзець на сіняе неба. Ніколі не згаджуся я, што „белавежцы" — прадстаўнікі плыні, якая выбрала начное неба. Наадварот, яны ў мяне ды і ў многіх іншых прадстаўнікоў усё тое, што сіняе і яснае. А тое, што некаторыя „белавежцы" маюць сучасную форму сваіх вершаў, дык гэта ўжо мода. Паэзія, як і ўсё іншае, зменнаецца, ідзе з духам часу. І нельга тут вынесіць паспешлівы суд.

**М. Панфілюк**



*Разам з сялянамі з Беласточчыны трапіў я да Багуслава Астроўскага з Кнышына, гаспадарчыя будынкі якога ўзнагароджаны „Залатой вехай".*
*Фота В. Рудчыка*

(Працяг са стар. 1)

## ХТО БУКАТЫ...

але бяру цялят ад прадпрыемства па распаўсюджванню гадаўлянай жывёлы найраней у сакавіку або ў красавіку, стаўлю іх на зялёны летні адкорм, а восенню — далоў іх на базу, назад для гэтага ж прадпрыемства, бо навошта мне ламаць галаву, чым іх зімой карміць...

— Я таксама маю ўмову з прадпрыемствам па распаўсюджванню гадаўлянай жывёлы, — прабаваў паясніць справу Багуслаў Астроўскі. — Гэта ў рамках **пастановы Рады Міністраў нумар 153,** якая накладае абавязак кіраваць на далейшую гадоўлю цялят вагой ад 60 да 80 кг, якіх раней можна было паставіць у бойню...

Пакінуў я сялян, занятых спрэчкамі, і звярнуўся да гаспадыні, да **Аліны Астроўскай,** бо не давала мне спакою яшчэ адна праблема: як абслужыць такую колькасць жывёлы, як справіцца з апрацоўкай такой вялікай гаспадаркі?

— Якая ў вас сям'я?

— Муж, я і чатыры сыны. Наймалодшаму няма яшчэ паўтара годзіка, а найстарэйшаму — 12 гадоў, — адказала Аліна Астроўская. — Каб не тэхніка...

Сапраўды, кароў доіць яна электрычнай даілкай. Летам дастаўляе да 200 літраў малака ў дзень, зімой, калі зацеленыя каровы запускаюцца, напалавіну менш. Гной чысціць у кароўніку ланцуговым заграбальнікам, а ў букацярні пакладзена шчыліновая падлога, і цялячыя адходы пападаюць у гнаёвыя канавы, якімі сплываюць у зборны рэзервуар.

— Але ўсё ж цяжка даводзіцца, — уздыхае гаспадыня. — Асабліва ў час тэрміновай неадкладнай работы. Часам вымушаны мы і наймаць людзей. Для прыкладу, за ўборку бульбы плацілі па 400 злотых у дзень.

Аднак і гэта, відаць, ім аплоціцца, бо вось гляджу на новую букацярню, на перабудаваную абору, на невялікі, але аднаўлены домік — усё аж зіхаціць багаццем і заможнасцю. Міжвольна прыходзіць на думку гэтая крылатая заўвага: *„Хто букаты — той багаты, хто малако — мае ў ПКО".*

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 1)

## У ДАБРЫВАДЗЕ

скай рады клуба, Уладзіміра Клімовіча, які зараз у войску. Сюды наведваюцца і дырэктар гмінных школ Анатоль Такаюк (на сустрэчы з бацькамі вучняў кляшчэлеўскай гмінная зборнай школы), і медсястра з Кляшчэляў Міла Пляскові, і прадстаўнікі кіраўніцтва кляшчэлеўскага СКРу. Улады СКР дапамагаюць фінансава гуртку вясковых гаспадынь, і жанчыны арганізуюць шматлікія мерапрыемствы.

Яшчэ раз пра тутэйшую моладзь. Перш за ўсё пахвальна. За яе актыўнасць. За працу для дабра ўсіх. Маладыя хлопцы і дзяўчаты не прапускаюць ніводнага агульнавясковага грамадскага пачыну. У мінулым годзе яны добраўпарадкавалі панадворак вакол клуба (клубныя залы памалявалі два гады таму назад) і мясцовы супрацьпажарны басейн, рамантавалі даяздную дарогу на сенажаці і адрэзак дарогі з Дабрывады ў напрамку кляшчэлеўскага вакзала, дапамаглі СКРу пры ўборцы збожжа і бульбы. У грамадскай дзейнасці вылучаюцца Вольга Якубоўская, Марыя Клімовіч, Марыя Маркевіч, Валянціна Маркевіч, Вера Ліпінская, Марыя Купрыцюк, Ірэна Маркевіч, Аляксандр Сідарук, Ян Ліпінскі, Мікалай Маркевіч. Дабрывадскі гуртох ЗСМП вядучы ў гміне. І гэта вялікі гонар для яго.

Варта дадаць, што нядаўна, 28 лютага, дабрывадскі клуб „Рух" заняў першае месца ў ваяводстве ў конкурсе „Моладзь — дзецям". Абсалютна заслужана. Брава тады для моладзі з Дабрывады. Жадаем ёй плённых поспехаў на культурнай ніве.

**Янка Целушэцкі**

### ПЫТАННІ ПА ЛІТАРАТУРЫ НА ВУСНЫ ЭКЗАМЕН ДЛЯ КАНДЫДАТАЎ НА БЕЛАРУСКУЮ ФІЛАЛОГІЮ

1. Перыядызацыя гісторыі беларускай літаратуры.
2. Характарыстыка савецкай беларускай прозы даваеннага перыяду (на прыкладзе вядомых табе празаікаў).
3. Характарыстыка савецкай беларускай паэзіі даваеннага перыяду (на прыкладзе вядомых табе паэтаў).
4. Пасляваенная беларуская паэзія (на прыкладзе вядомых табе паэтаў).
5. Пасляваенная беларуская проза (на прыкладзе вядомых табе празаікаў).
6. Беларуская савецкая драматургія на прыкладзе твораў К. Крапівы і А. Макаёнка.
7. Галоўныя літаратурныя формы і ідэі ў творчасці Вінцука Дуніна-Марцінкевіча.
8. Характарыстыка паэмы Вінцука Дуніна-Марцінкевіча „Гапон".
9. Персанажы і канфлікты ў драматургіі Вінцука Дуніна-Марцінкевіча.
10. Ідэя абароны селяніна ў паэзіі Францішка Багушэвіча.
11. Беларуская вёска ў творчасці Янкі Лучыны.
12. Галоўныя ідэі ў жыцці і публіцыстыцы Кастуся Каліноўскага.
13. Грамадская і маральная праблематыка ў дарэвалюцыйных апавяданнях Якуба Коласа.
14. Характарыстыка гумарыстычных дарэвалюцыйных апавяданняў Якуба Коласа.
15. Сялянскае жыццё ў паэме „Новая зямля" Якуба Коласа.
16. „Сымон-музыка" Якуба Коласа — галоўныя персанажы, ідэі, канфлікты.
17. Вобраз асветы, школьніцтва, постаці настаўнікаў, дзяцей у трылогіі Якуба Коласа „На ростанях".
18. Чаму Янка Купала з'яўляецца класікам беларускай літаратуры?
19. Характарыстыка рамантычных паэм Янкі Купалы: „Курган", „Магіла льва", „Бандароўна".
20. Аналіз дакастрычніцкай лірыкі Янкі Купалы.
21. Характарыстыка драматургіі Янкі Купалы.
22. Лірыка Янкі Купалы савецкай эпохі.
23. Характарыстыка лірыкі Максіма Багдановіча.
24. Вёска і горад у лірыцы Максіма Багдановіча.
25. Фальклорныя матывы ў паэзіі Максіма Багдановіча.
26. Фармальны і тэматычны агляд апавяданняў Максіма Багдановіча.
27. Кастрычніцкая рэвалюцыя ў прозе Міхася Лынькова.
28. Вялікая Айчынная вайна ў прозе Міхася Лынькова.
29. Галоўныя ідэі, падзеі і персанажы ў вядомых табе сцэнічных творах Кандрата Крапівы.
30. Характарыстыка сатырычных баек Кандрата Крапівы.

(Працяг на стар. 7)

### БУГ У АГНІ




Падзякаваў я Аляксандру Панасюку за ўспаміны, якія дазволілі мне запоўніць яшчэ адзін белы лісток з гісторыі пакутніцкага лёсу Слохаў Аннапольскіх, і папрасіў шафёра, каб падкінуў мяне зноў у Турну Малую.

У кішэні меў я ліст, якога ўжо і не спадзяваўся атрымаць. Можна памятаеце: я расказваў пра лёс **Любкі Млынарчук** і савецкага байца **Пятра Плаксея.**

У 1941 годзе Любка была яшчэ зусім маладзенькай дзяўчынай, у якой толькі што адкрылася сэрца на ўсё добрае і прыгожае. Жыла яна з бацькам **Емяльян Пуцько.**

Пятро Плаксей — высокі, прыгожы украінскі юнак, быў рэкрутам, прызыўніком. Салдацкі лёс закінуў яго на Буг.

І яны тут пазнаёміліся... І хто ведае, ці не вяселлем закончылася б іх юнацкае сяброўства, калі б не вайна.

Разлучыліся яны. Люба аднак запамятала адрас: *Пятро Пятровіч Плаксей, сяло Антонайка ў Кіеўскай вобласці.*

Напісаў я па гэтаму адрасу і доўга, вельмі доўга чакаў якой-колеч вестачкі. Ведаў, што ў надбужных дотах Пятро Плаксей трымаўся да канца, што пашчасцілілася яму астацца ў жывых, бо бачылі яго на станцыі Сямяцічы сярод палонных, бачылі ўжо пад канец першага тыдня вайны, а на дабавак Любка Млынарчук гаварыла мне, што Плаксей пісаў да яе пасля вайны, калі вярнуўся з фронту.

— Чаму тады маўчыць? — мучылі мяне пытанні.

А расказ пра Любку і Пятра я закончыў так: *„Ці адгукнецца на мой ліст? Пачакаем".* Бо ва мне была нейкая ўнутраная ўпэўненасць, што Плаксей адгукнецца. І дачакаўся. На адрас рэдакцыі прыйшло аж тры лісты, падпісаныя гэтай самай рукой, не вельмі прывыкшай да пяра: **„Плаксей Пётр П."** Усе з горада Перм. Гэта аж на Урале. Далёка, вельмі далёка, яшчэ нейкіх 1200 км у прастай лініі за Масквой. Вось дзе апынуўся наш сябар Пятро Пятровіч!

Якім чынам аж туды папала маё пісьмо, я і сёння не ведаю. Але найважнейшае, што яно папала, што знайшло свайго адрасата, што Пятро Пятровіч Плаксей уласнаручна напісаў мне аж тры доўгія лісты... Значыць ён жыве! І гэта асноўнае!

*„...да, Любу я очень помню... Передайте ей низкий Поклон..."*

*„Поклон"* — з вялікай літары. Так ён сам напісаў, значыць, з асаблівай пашанай! Я чытаў гэтыя простыя словы і думаў, што гэты сталы ўжо зараз чалавек (ён з 1918 года нараджэння), жанаты і сямейны, не мог лепш, болей кортка і красамоўна перадаць сваіх пачуццяў, сваёй добрай памяці аб гэтай жанчыне з надбужнай вёскі, якую ён ведаў 40 гадоў таму назад — дабаў і не забыў.

*„Да, Любовь Емельяновна,* — дабаўляў ён яшчэ — *тогда была Путько..."*

І вось ехаў я да яе з гэтым лістам, ехаў і думаў: „Як яна мяне сустрэне? Што скажа яе муж? Як гэтую вестку ўспрымуць дзеці, асабліва сын, ужо дарослы, жанаты. Ён пра байца Плаксея чуў толькі ад старэйшых суседзяў, чытаў пра яго ў „Ніве" (якой дагэтуль не цікавіўся) і ведаў пра яго з рэдкіх ды скупых успамінаў сваёй маці.

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 3)

## ФАТА-МАРГАНА

вы захавання першых арганізмаў на Зямлі". Я выступіў з дакладам у канферэнц-зале інстытута. Калі я гаварыў, сам сябе не чуў, ды і не заўважыў, як усе слухачы выйшлі. Была першая гадзіна ночы. Я ўбачыў перад сабою толькі вартаўніка з ключамі. Ён сказаў: „Як скончыце — зачыніце залу. Я таксама ўжо іду дамоў“.

VII. Позняй восенню я рашыў даследаваць, як далёка вецер адносіць насенне клёну ад дрэва. Было пахмурна і туманна. Я ўзяў з сабой ручны анемометр — вымяральную прыладу хуткасці ветру.

Калі паасобныя насенні з крыльцамі адарваліся ад дрэва, яны круціліся ў паветры. Я, назіраючы іх рух, высока задзіраў галаву. Шапку зняў. І як пачаў я перамяшчацца ў такой позе ў напрамку пастухоў, яны кінуліся наўцёк. За імі пабегла і жанчына, кінула матыку.

За каго яны мяне ўзялі, каменціраваць не трэба. Гэта ж і ёсць фата-маргана, або ілжывае разважанне: чалавека аб чалавеку.

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскін**




Хоць штогод гурток БГКТ супольна з гуртком вясковых гаспадынь рыхтавалі мастацкую праграму, якая падабалася аднавяскоўцам, аднак такога натоўпу гледачоў, як у гэты суботні зімовы вечар, дагэтуль не было. Трасцяне зышліся ўсе, як кажуць, ад старога да малога — у мясцовы клуб. Папрыязджала і моладзь з суседніх вёсак. А глядзець было на што. Жанчыны з Трасцянкі паводле сцэнарыя, напісанага старшынёй гуртка Беларускага таварыства Аннай Стахвіюк, вядомай народнай спявачкай, падрыхтавалі народны абрад заручын. Непаўторны вобраз Бабулі паказала тут Гаша Трафімюк, а Дзеда — Люба Сцепанюк. Старых Цётак добра сыгралі Насця Богуш і Насця Сцепанюк. Ролі Суседак найлепш выйшлі ў Олі Самсэль і Ірэны Франкоўскай. У ролю Маці нядрэнна ўчулася Люба Тамашук. Пару Маладых сыгралі вучні мясцовай школы — сямікласнікі Люся і Мірэк.

Самадзейніцы паклапаціліся і пра адпаведныя ўборы. Прыбраліся ў даўнія спадніцы-саяны, вышываныя старынныя бабульчыны блузкі і фартушкі-пярэднічкі, а таксама каляровыя хусткі-шаляноўкі. Старыя бабулі на галовы надзелі спецыяльна пашытыя каптуры.

Сцэну ўпрыгожылі вышыванымі ручнікамі. Стварылі жанчыны сапраўдны вобраз даўняй беларускай вёскі! Артысткі карысталіся арыгінальнай вясковай мовай. У дыялагі ўплялі сакавітыя вясковыя пагаворкі, як „хоць гаршком называй, но ў печ не саджай“, „каб ёй язык калом стаў, як яна пляткара“, „ані ложкі, ані міскі, толькі вісіць тры калыскі“ і многа падобных, якія часта сустракаюцца ў размовах вясковых кабет.

Апрача „Заручын“ самадзейніцы спявалі песні і паказалі даволі цікавыя скетчы, а таксама дэкламавалі вершы папулярнага ў нашым асяроддзі ніваўскага паэта Дзядзькі Кваса.

Вечар удаўся на дзіва. Гледачы і наслухаліся, і нагледзеліся, і насмяяліся. Пасля пачаліся танцы, якія прадаўжаліся амаль да раніцы.

**Рута**




## АМБА!

На заканчэнне хачу паўтарыць, што ў крытыку сучаснай паэзіі ўступаў я не з суб'ектыўных меркаванняў. Выказаў я думкі сялянскага саслоўя. Але паколькі мяне ніхто на гэтае выступленне не прасіў (ні прымушаў), то за вынікі яго (ганарова) адказваю асабіста. Дваракоўскі абвінавачвае мяне ў зневажэнні Артымовіч, Бандарука і Свіська. Дзед Кастусь бачыць толькі знявагу адной Артымовіч, а Стануле віч наогул асоб не кранае, абмяжоўваючыся аб'ектыўным разглядам напрамкаў сучаснай паэзіі.

На абвінавачванні я ўжо даў адказ, а каб не было замала, працытую яшчэ Дваракоўскага: „Гэты сум паэтэсы па страчаным будзе спадарожнічаць да канца жыцця... і ў поўным моманце псіхічнай дэпрэсіі гэты сум — як бальзам на душу“. А калі так, то якая ж тут з майго боку знявага? Сваім аглядам я толькі прыгадаў гэты спадарожны, гаючы „сум“. За што ж тады гэтак крычаць-гучаць на мяне? Тут і заключныя словы майго крытыка, вынятыя з Евангелля: „не знаюць, што робяць“ адносяцца выключна да яго, а не да Дзядзькі Кваса, ці Дзеда Кастуся. Таго самага Дзеда Кастуся, які двойчы абвінавачвае мяне ў зневажэнні паэтэсы Н. Артымовіч, што я лічу неабгрунтаваным. Я перакананы, што такой зневагі не дагледзела і ўся сялянская маса чытачоў „Нівы“. Аднак веру, што Дзед Кастусь не з тых, хто кідае слова на вецер. А калі на самай справе заістнела гэткая знявага, то заістнела яна супраць маёй волі і ведаў.

Найвышэйшы час канчаць палеміку. Дзякую. Асабліва хачу падзякаваць Дзеду Кастусю, асобай якога я быў зацікаўлены здаўна, а раскусіў яго, як след, толькі пасля апошняга надруку „Яшчэ некалькі слоў“. Гэтыя словы варты золата. Брак іх у тваёй біяграфіі выклікаў у мяне падазронасць і штурхнуў на рызыку. У псеўданіме „Дзед Кастусь“ я ўгадваў двух індывідуаў, якія яскрава выдзяляюцца на палетку сейбітаў беларускасці. Мая памылка. Нічога, што Дзед Кастусь прысвоіў мне званне „амбітніка“ і „мсціўца“ (чарговая памылка ў выяўленні маёй індывідуальнасці). Затое мы атрымалі поўны вобраз Дзеда Кастуся. Каб не мая памылка, не ведалі б мы забаўнага эпізода ў тваёй біяграфіі. Як жа цябе так лоўка спусцілі з Парнаскай гары хітрыя дактары-магістры? Ну і Дзед Кастусь! Паддаўся іх эксперыментам. Хацеў акірачыць падвоблачны пік. Дзякуй Богу, дактары-магістры ў час дагледзелі ў табе ярша калючага, крытыка балючага, выпісаўшы спраўку — пусцілі ў адпраўку. І добра зрабілі (нічога, што я за гэта атрымаю назоў пудзіла гарохавага). Бо каб была ў цябе натура не Дзеда Кастуся, калі б да сённяшняга дня сядзеў ты на Парнасе, дык задалі б вы з Дваракоўскім мне такога жару, што па мне толькі мокрае месца засталося б. А так, пакуль што, я маю ходы-абыходы. Нейк, то бокам, то скокам, выкручваюся з пастак, якія ставяць працаўнікі, вяду (сяк-так) свае справы народныя. Пры нагодзе магу і пахваліцца (не цярплю гэтага): нічога, што я гадамі за цябе малодшы, аднак я больш стрэляны верабей. Атрымаў і я, як роўны роўным літаратар, запрашэнне на той з'езд. Але я на вудачку не падаўся. Цэняны час, астаўся верны высакароднай прафесіі хлебароба, трымаюся скібы, не рушыў са свайго панадворка. У госці прыходзіла „Ніва“. Палюбіўшы яе, як сваю справу, папаўняў яе сваімі разважаннямі.

І спакойнае жыццё закончылася драматычна. Аказалася, што селькоры павінны пісаць выключна пра свае панадворкі, не высоўваць насоў навонку. Аказваецца, на літаратурныя палеткі, як у біблейскі храм, уваход грэшным забаронены. Ён адкрыты толькі свяшчэнаслужыцелям. Нетыкальнасць літаратурнага палетка абсалютная. Правы дэмакратыі яго не датычаць. Ні словам, ні дзелам, ні помышленіем! Еш боршч з грыбамі і трымай язык за зубамі!

А з гэтым якраз не згодны Дзядзька Квас (можа таму і амбітны, настойлівы, цярплівы і працавіты, як увесь беларускі народ).

**Дзядзька Квас,**
Малынка

## ГАЙНАЎКА БУДУЕЦЦА

Яшчэ не прайшло два гады, як я пісаў, што ў Гайнаўцы рыхтуецца месца для пабудовы жыллёвага пасёлка з назвай „Цэнтр“ на вул. 1 Мая. А ўжо вось у чатыры блокі ўсяліліся навасёлы, каля ста сем'яў. Шэсць далейшых пяціпавярховых будынкаў стаяць ужо пад дахам, а тры яшчэ будуюцца. Кіраўніком гайнаўскіх будоўляў з'яўляецца інжынер Врубэль, пра якога дрэннага слова не чуў я ад рабочых.

Да восені пабудова пасёлка „Цэнтр“ закончыцца. Прыйдуць сюды новыя навасёлы — члены гайнаўскай жыллёвай спулдзельні, якія чакалі сваіх новых кватэр каля пяці год. Змяніўся спосаб будавання ў апошнія гады. Ужо не будуюць з цэглы і сіпарэксу, а будынкі ставяцца з гатовых элементаў, якія вырабляе гайнаўская фабрыка дамоў.

*

Нядаўна была толькі ў плане пабудова новага жыллёвага пасёлка на вул. Ліповай у Гайнаўцы. Год 1980 замяніў планы ў рэчаіснасць. Будаўнікі ўжо палажылі фундамент для першага блоку. Ведаючы, як хутка будуюць Бельскае будаўнічае прадпрыемства і Гайнаўская жыллёвая спулдзельня, чакаем, што вось-вось прыйдуць сюды новыя жыхары. Пасёлак прыняў назву „Лясны“ ад рэчкі, якая з боку цячэ. Пабудова ўсяго пасёлка будзе працягвацца тры гады. Пасля заканчэння на ім будзе пражываць 5 тысяч чалавек. Апрача жылых дамоў будуць пабудаваны дзіцячыя яслі, прадшколлі, крамы і розныя паслуговыя майстэрні.

*

Праўленне горада Гайнаўкі многа ўвагі прысвячае эстэтычнаму выгляду горада. Нягледзячы аднак на гэта, ёсць яшчэ вуліцы без цвёрдай мастаўкі, а некаторыя не маюць тратуараў для пешаходаў. У гэтым годзе плануецца пры дапамозе грамадскага пачыну пралажыць тратуар на вуліцы Бельскай, на вул. Варшаўскай ад Надлясніцтва да Юдзянкі і перабудаваць тратуар на вул. Варынскага. Распачнецца таксама пабудова прыпынкаў МПК.

**Э. Вайсковіч**



*Новая Гайнаўка. Блокі па вул. 1 Мая.* *Фота Я. Целушэцкага.*

(Працяг са стар. 2)

## НА ЗАПАВЕДНЫХ СЦЕЖКАХ

ву. Цяпер тут жыве больш за тысячу гэтых каштоўных звяроў.

Пры дапамозе чалавека вярнуўся ў бярэзінскія лясы таксама іх колішні насельнік — шляхетны алень. Многа разоў наведваў я запаведнік і заўсёды сустракаў ласёў: іх тут каля 1400. Зноў пасяліўся на зямлі сваіх продкаў зубр. Яго прывезлі сюды з Белавежскай пушчы.

Бярэзінскі запаведнік адпавядае ўсялякім вымаганням біясферных запаведнікаў. Тут выдзелены чатыры функцыянальныя зоны. Апрача „сарцавіны“ запаведніка — зоны абсалютнай нетыкальнасці — ёсць зоны звычайнай аховы, экскурсійна-асветная і гаспадарчага забеспячэння, з якой мы ўжо з большага пазнаёмілі чытача. Перад працаўнікамі запаведніка стаіць многа складаных заданняў. Ім, напрыклад, трэба будзе заняцца праблемай прагназавання развіцця біясферы. Навуковы патэнцыял тут вялікі. У навуковым аддзяленні працуе 60 чалавек, сярод іх некалькі дактароў навук, габілітаваны доктар біялагічных навук В. Рамановіч, ён таксама — намеснік дырэктара запаведніка.

Цяпер Бярэзінскі запаведнік атрымаў назву паказальнага ўзору зямнога пейзажу, названы ў міжнародным маштабе. Шчыра і сумленна служыць ён чалавеку, дапамагае яму знайсці адказы на многія складаныя пытанні з жыцця прыроды.

**Міхал Шыманскі**

## Аматары аленевых рагоў!

Канец зімы — пачатак вясны, перыяд, калі алені-самцы скідаюць рогі. І, як штогод, процьма людзей пачынае хадзіць па лесе і шукаць гэтыя скідкі. Аленевыя рогі выкарыстоўваюць на розныя вырабы, або як дэкаратыўны матэрыял. Усё было б добра, калі б людзі, шукаючы іх, не палохалі звяроў. А дзеецца, як правіла, зусім інакш. Ходзяць яны ў кожны закавулак лесу і, калі ўбачаць аленя, які яшчэ носіць рогі, гоняць яго настойліва, думаючы, што, як ён будзе бегчы, то рагамі зачэпіцца за галіны і згубіць іх. Падыходзяць таксама ўначы пад кармушкі. Калі ёсць снег, дзеецца яшчэ горш. Аматары рагоў ідуць па слядах аленяў так доўга, пакуль іх не спаткаюць. Нярэдка не разбіраюцца, ці гэта сляды самцоў ці самак (самкі рагоў не маюць), ідуць за гэтымі апошнімі, і, убачыўшы, што гэта саміца (або ўвогуле які іншы звер), са злосці палохаюць іх, кідаючы галінамі, або крычачы на ўвесь лес.

Наогул канец лютага і цэлы сакавік гэта перыяд для аленяў найбольш цяжкі ў цэлым годзе. Аслабленыя зімой, цярпяць не толькі ад нястачы кармоў, але і ад чалавека. Варта, каб лясная служба прыкладна карала ўсіх аматараў аленевых рагоў, якія праднамерана палохаюць звярыну.

**П. Байко**

## Жанчыны вучацца

У Нараўкаўскай гміне ў трох школах грамадска-палітычнага абучэння: у Семяноўцы, Альхоўцы і Ляшуках займаецца каля ста жанчын. Заняткі адбываюцца ў школьных будынках і ў ляшуцкім клубе „Рух“. Іх вядуць сакратар гміннага камітэта ПАРП, начальнік гміны, кіраўнік гміннай сельскагаспадарчай службы, дырэктар гмінных школ, лекар і іншыя прадстаўнікі гмінных улад. Кабеты знаёмяцца з развіццём харчавой гаспадаркі, правіламі гаспадарання зямлёй, а перш за ўсё законнымі асновамі змен карыстання зямлёй, развіццём спецыялістычных гаспадарак і сялянскіх вытворчых калектываў.

Значная частка тэмаў прысвячаецца напрамкам сацыяльнай палітыкі дзяржавы, дзейнасці КГВ, выхаванню дзяцей, рацыянальнаму вядзенню дамашняй гаспадаркі. Будуць таксама абмяркоўвацца справы пенсій для сялян і іх сем'яў.

Веды, здабытыя ў школе, прыдадуцца жанчынам у іх далейшай грамадскай дзейнасці ў КГВ і ў штодзённым жыцці.

**(яц)**




...у Боцькаўскай гміне ў мінулым годзе жыхары яе выканалі грамадскія пачыны агульнай вартасці на суму 5,4 млн. злотых. Найбольш пры пабудове дарог, святліц, загаспадаранні газонаў. Вылучыліся вёскі Красновесь і Бодакі.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Вось ужо трэцюю ноч падрад сняцца мне сны. Першы сон. Заехала я на вёску да бацькоў. У сапраўднасці бацька мой ходзіць на кастылях, а ў сне я бачу, ідзе ён у садку так хутка і без кастылёў. Я са здзіўленнем гляджу на яго і пытаю: „А што, кастылі ўжо аставілі? Ну, і дзякуй Богу". А бацька кліча мяне, каб падыйшла я да грушы. Тады страсянуў яе, і пасыпаліся спелыя жоўтыя грушы. Я ўкусіла адну, але не была яна такая смачная. І бацька кажа: „Ідзем тады да іншай".

Другі сон. Пайшлі мы з мужам на сільвестравы баль. У зале падышоў да мяне адзін знаёмы мужчына і ўзяў танцаваць. Але ніяк не выходзіў нам гэты танец, і тады падыйшла да мяне нейкая дзяўчына і ўзяла мяне ад таго мужчыны і мы танцуем абедзве. Але таксама мне нейк ногі не хадзілі. І мы хутка танец скончылі. Я вярнулася да мужа. І гляджу сабе на ногі. Я ў ясных бежавых туфлях. І так яны мне запамяталіся.

Трэці сон. Я ў сябе на рабоце. І купіла рыбы (траскі) многа. Палажыла ў адным пакоі, як бы камусьці, а ў другім сабе. Рыба вялікая, прыгожая, без галоў. І я гляджу, а адна рыба, хаця без галавы, але лезе. Што могуць абазначаць гэтыя сны?

Ніна

**Ніна!** Першы сон выглядае на тое, што тваіго бацьку чакае нейкі прыбытак, узбагачэнне (тыя грушы, якія ён страсаў у садзе). Другі сон гаворыць аб тым, што нейкі пусты, непатрэбны занятак займае твой час і нервы. А трэці сон сведчыць аб нейкай непрыемнасці.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### ПА-СПАРТЫЎНАМУ

У сувязі з вялікай колькасцю лістаў, у якіх нашыя чытачы скардзяцца, што замала ўвагі прысвячаем мы мужчынскай модзе, ужо другі раз паказваем, як апранаецца штодзённа мужчына 80-х гадоў.

Апранаецца спартыўна. Што абазначае гэта слова? Абазначае, што мужчына ў такой вопратцы адчувае сябе лёгка і свабодна. Што нішто не перашкаджае яго рухам, і ў такой вопратцы ён можа ў летнюю пару выконваць розную працу.

Аднак спартыўная мода — гэта не значыць, што чалавек можа апранацца абы-як. Спартыўная вопратка, вось хаця б, як і на нашым здымку, павінна быць таксама дакладна падабраная. Тут вы бачыце мужчыну ў модпай кашульцы з надпісамі, а наверх ён апрануў цяплейшую кашулю ў клетку. Кашуля расшпілена. Да цёмнай кашулі апрануты белыя штаны. Да гэтай вопраткі неабходна падабраць адпаведныя туфлі, адпаведную сумку, каб усё разам гарманізавала.

У папярэднім нумары мы напісалі, што сёння элегантная вопратка — гэта вопратка зручная, спартыўная. Сёння мы гаворым: спартыўная мода не можа быць абы-якая, яна таксама мусіць быць элегантная.

**Сяброўка**





**У нашай метраполіі.** Сецэсія ў Беластоку. Рэстаўраваная камяніца з пачатку XX стагоддзя на вул. Варшаўскай.

Фота М. Гайдука.

## ФАЛЬКЛОР

### БАЛАДА




*Погнаў Роман сывы волы на зімную росу*
*і зоставіў Марусеньку пры лужэчку босу,*
*і зоставіў Марусеньку пры лужэчку босу.*

*— Пасітэся, сывы волы, нё буйтэся вовка,*
*я сам пойду до дівчыны, бо боліт головка,*
*я сам пойду до дівчыны, бо боліт головка.*
*Зайшоў Роман до дівчыны: „Добры вэчур, сэрце!"*
*Она ёму одказуе: „Зарэж жынку ўпэрш".*
*Она ёму одказуе: „Зарэж жынку ўпэрш".*

*— Як мне еі зарэзаты, як до еі ўчэпітысь?*
*Моя жынка молодая будэ просытысь.*
*Моя жынка молодая будэ просытысь.*

*— Пойды, Роман, до корчомкі горылкі напысь,*
*Прыды, прыды додомоньку до жынкі ўчэпысь.*
*Прыды, прыды додомоньку до жынкі ўчэпысь.*
*Пошов Роман до корчомкі горылкі напыўся,*
*прышоў, прышоў додомоньку до жынкі ўчэпыўся,*
*прышоў, прышоў додомоньку до жынкі ўчэпыўся.*

*— Ой, пожды ж ты, Романоньку, хоть одну годыну,*
*ой, ныхай я подгодую малую дытыну,*
*ой, ныхай я подгодую малую дытыну.*

*— Тогды будэш, моя мыла, дытя годоваты,*
*як я пойду до дунаю ножа полоскаты,*
*як я пойду до дунаю ножа полоскаты.*
*Пошоў Роман до дунаю ножа полоскаты,*
*а суседы, добры людэ, далі маті знаті,*
*а суседы, добры людэ, далі маті знаті.*

*— Кідай, маті, жыто жаті, кідай дожынаты,*
*іды дочку-одіночку на смэрть наражат,*
*іды дочку-одіночку на смэрть наражат.*
*Ідэ маті дорогою і плачэ бэз конца —*
*лежыт дочка-одіночка очамы до сонця,*
*лежыт дочка-одіночка очамы до сонця.*
*Закувала зазуленька у зэлёном лузі.*
*Вэзут, вэзут Романочка ў зэлязым ланцузе,*
*вэзут, вэзут Романочка ў зэлязым ланцузе.*
*Закувала зазуленька і ў попа на ганку.*
*Вэзут, вэзут Романочка і його коханку,*
*вэзут, вэзут Романочка і його коханку.*
*Закувала зазуленька і ў попа на плоті.*
*Будэ тобе, Романочку, як тому собаці,*
*будэ тобе, Романочку, як тому собаці.*

Ад Яўгеніі Тышук, год 50, вёска Вілінава гм. Мельнік, запісаў у лістападзе 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфраваў Ян Бондар.






Дарагое Сэрцайка, прашу. парай у маіх клопатах. Я закончыў рамесную школу, працую фізічна. А пазнаёміўся са студэнткай трэцяга курса палітэхнікі. Яна мне вельмі спадабалася, ну і я ёй таксама. Былі мы разам на сільвестравым балі ў студэнцкім асяроддзі. Як жа мне спадабалася гэтая моладзь — культурная, інтэлігентная. І такая ж мая Бася. А я? Я стараўся, каб не быць горшым. На рабоце мяне лічаць інтэлігентным хлопцам, дык можа і ўдалося мне весці сябе не горш за іншых. Бавіліся мы там цудоўна. І Бася была задаволена. Спатыкаемся мы з ёю нячаста, бо яна вучыцца ў іншым горадзе. Яна ведае, што я працую, але я не прызнаўся, што закончыў толькі рамесную школу. Баюся, што калі скажу, дык яна пакіне мяне. Ды і сорамна мне, што яна будзе мець вышэйшую адукацыю за мяне. І што тут рабіць?

Занепакоены Янка

Янка! Што рабіць, пытаеш. Вучыцца. Ты ж яшчэ малады, усё перад табой. Бярыся за навуку. Можаш, працуючы, папоўніць адукацыю ў завочным тэхнікуме, а пасля і ў вуз падацца. І праз некалькі гадоў дараўняеш сваёй дзяўчыне. Ахвотным вучыцца дарога да навукі ў нашай краіне адкрыта. Ды ты непатрэбна скрываеш перад Басяй тое, што працуеш фізічна. Ніякая праца не ганьбіць чалавека, калі ён яе выконвае салідна і ўчціва.

**Сэрцайка**

(Працяг са стар. 4)




Людзі могуць апляваць нават святое. Памятаю, як я трапіў на след Любы Млынарчук. Першы інфарматар нават не ведаў яе прозвішча.

— У Турне вам скажуць, — гаварыў ён. — Яна гэтым байцам у бункер есці насіла... — і тут паявілялася гэтая вядомая, з'едлівая ўсмешка, якая мела мне падказаць: *„Ну, разумееце, пра што я думаю"*. А тое, пра што ён думаў, было звычайнай хлуснёй.

І пасля я ўжо не здзіўляўся, чаму Любка Емяльянаўна, як яе называў Пятро Плаксей, не хацела са мной гутарыць, чаму вельмі неахвотна адкрыла сваю чыстую душу, ды на дабавак палічыла неабходным гэтую чысціню падмацаваць яшчэ знакам крыжа.

— Можа вам дзе што нагаварылі, то я вось бажуся, - і яна перахрысцілася, што ўсё гэта няпраўда. Я сябравала з Пецькам і толькі... Ён заходзіў да нас, да бацькоў...

Я сам стараўся сябе супакоіць. Аднак хваляванне нарастала, а сэрца адзывалася паскораным біццём.

Зараз жа за Слохамі, з правага боку шашы, чорнымі прабоінамі, быццам стварэнне з іншага свету, мільгануў за шыбамі аўтамабіля абросшы мохам і карчамі стары жалезабетонны пункт доўгатэрміновай абароны, значыць, — дот. І я падумаў:

„Тады, у чэрвені сорак першага, гэтай шашой імчаліся гітлераўскія аўтамашыны, з гэтага дота стралялі па іх. А Плаксей недзе тут у прышасейнай канаве акапаўся са сваім кулямётам..."

...У хаце Млынарчукоў сабралася ўся сям'я: яна, Люба, яе муж — Міхаіл, іх сын, яго жонка і маленькая Моніка трэцяе пакаленне Млынарчукоў.

Пасля першых прывітанняў я звярнуўся да цёткі Любы і ўрачыста заявіў:

— Нізкі паклон Вам ад Пятра Плаксея!

— Жыве! — усклікнула яна ў першую хвіліну, а затым, быццам бы апаматалася, паглядзела найперш на мужа, а пасля на мяне і запытала: — А вы не жартуеце? Праўда гэта?

— Ліст ад яго я маю...

— Пакажыце! — яна нацягнула на нос акуляры і ўважна прыгледзелася да карткі паперы, вырванай са звычайнага вучнёўскага сшытка, запоўненай радкамі літар, выведзеных рукой, якая прывыкла да болей цяжкіх прылад, чымсьці аловак і ручка.

— Так, гэта яго почырк! — апавясціла нам Люба Млынарчук. — Так сама, кропка ў кропку, пісаў ён да мяне і тады, калі вяртаўся з фронту.

— Пакажы! — сягнуў за лістам Міхаіл Млынарчук. Прачытаў адрас: *„СССР, город Перм, ул. Соченская... Плаксей Пятро П."* Як бы то од юго, — звярнуўся ён да жонкі на сваёй мясцовай гаворцы, якой тут мы ўсе карысталіся, апрача адной маленькай Монікі, якая і так не ведала, ды не хацела ведаць, пра што гавораць старэйшыя людзі. Уключыла сабе тэлевізар і захаплялася незвычайнымі прыгодамі казачных герояў.

„Вось бестурботнае дзяцінства! — падумаў я. — Як добра, што яно такое! За тое і змагаліся мільёны такіх звычайных людзей, як гэты Пятро Пятровіч Плаксей, якім зручней было валодаць вінтоўкай і аўтаматам, а пазней, у мірны ўжо час, рычагамі розных магутных станкоў, чымсьці крохкім пяром".

Міхаіл Млынарчук паспрабаваў чытаць ліст ад свайго даўнейшага сябра, з якім, здаралася, разам гулялі і да дзяўчат падмазваліся.

*„Уважаемый корреспондент журнала „Нива", Виктор...* — прачытаў ён іх з цяжкасцю.

— Да вас піша! — адазвалася цётка Люба.

— Не магу я разабраць! — сцвердзіў гаспадар і звярнуўся да сына. — Маеш, ты ў нас вучаны, можа ты прачытаеш.

Сын Млынарчукоў, па прафесіі будаўнік, працуе ў Сямяцічах. Узяў ліст, паглядзеў на яго, паспрабаваў чытаць ціха і аддаў мне.

— Гэта да вас пісана, — сказаў. — А я чужых лістаў не чытаю. Калі захочаце...

— Ахвотна, — згадзіўся я, але мяне спыніла цётка Люба.

— Пачакайце хвілінку! — заявіла яна. — Такое здарэнне! Я стол прыбяру!

Што ж, радасці трэба дазволіць, каб вылілася поўным ручаём. Таму і чытанне лісту ад Пятра Пятровіча Плаксея адкладзем мы да наступнай сустрэчы, значыць — праз тыдзень.

**Віктар Рудчык**

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАМЯЦІ ЗАСЛУЖАНАГА ЧАЛАВЕКА

Жыхары вёскі Крушыняны праводзілі ў апошнюю дарогу свайго аднавяскоўца, Аляксандра Макаля. Памёр ён ва ўзросце 67 год у беластоцкай бальніцы. Быў чалавекам высокіх духоўных вартасцей. Родам з беднай сялянскай сям'і, дзяцінства і маладосць пражыў у цяжкай працы. Калі ў краіне запанавала народная ўлада, Аляксандр Макаль усёй душоў аддаўся на службу народу. Працаваў у радах нарадовых, а потым доўгія гады ў сельскагаспадарчым гуртку. Ад 1975 года быў брыгадзірам палявoдчай брыгады і кіраўніком пункта паслуг у ВПГР Крынкі. Свайго часу быў актывістам БГКТ. Развітацца са сваім суседам прыйшлі людзі з суседніх вёсак і ўсе з сумам праводзілі яго. Заслужыў Аляксандр Макаль на добрую памяць усіх наваколыных людзей.

**К. П.**

## ДЗІЦЯЧАЯ ПРАБЛЕМА

У некаторых вёсках былі ліквідаваны школы, у тым ліку і школа ў Леўках каля Бельска, куды хадзілі дзеці з вёсак Леўкі, Райкі і Казлы. Дзеці з гэтай школы былі накіраваны ў школу № 3 у Бельску. І ўсё было б у парадку, каб не факт, што дзеці з II і III класаў даязджаюць цягнікам з Левак у Бельск вучыцца на другую змену. І вучацца да гадзіны 19. А дамоў вяртаюцца а 20 гадзіне.

Пайшоў я з гэтай справай да дырэктара школы. На жаль, не змог ён знайсці выхаду з гэткага становішча. Напісаў я просьбу аддзелу асветы і выхавання ў Бельску. І ўсё прыціхла. Толькі дырэктар школы забараніў настаўніцы звальняць дзяцей перад канцом заняткаў. Пайшоў я да інспектара даведацца, які лёс майго прашэння. І даведаўся, што: інспектарат асветы і выхавання абмяжоўвае сваю дзейнасць толькі горадам Бельскам. Дзецьмі з вёсак займаецца дырэктар гміннай зборнай школы.

Пайшоў я на поўнач горада. Застаў дырэктара ў яго кабінеце. Калі я пачаў свой расказ, ён адразу мяне спыніў і гаворыць: мы вашых дзяцей вазіць не будзем, а прыняць можам толькі без давозу. Калі ж дырэктар школы № 3 прыняў вашых дзяцей, то ён абавязаны стварыць такія ўмовы, каб дзеці, якія даязджаюць, распачыналі заняткі ў школе ад 8 гадзіны раніцы.

Калі я выйшаў на вуліцу, стаў ды й падумаў сабе: чым больш высокія вучоныя, тым большы балаган.

**Сам**

## НАША СУПРАЦОЎНІЦТВА

Ад 1 сакавіка на працягу дзесяці дзён ішла дэкада культуры вёскі на Беласточчыне. Адбылося шмат розных сустрэч між вёскамі і большымі прадпрыемствамі ў гарадах. Нараўка ўжо другі год супрацоўнічае з фабрыкамі мэблі ў Беластоку. Супольныя пачыны не абмяжоўваюцца дэкадай.

Нядаўна адбылася ў Нараўцы мілая сустрэча з прадстаўнікамі Гродзенскай фабрыкі мэблі з БССР. Была падпісана ўмова аб супрацоўніцтве беластоцкіх фабрык мэблі з гродзенскімі. Адбыўся абмен сувенірамі.

Улады гміны пазнаёмілі гасцей Гродна і Беластока з дасягненнямі гміны і яе перспектыўным развіццём.

**А. З.**




### ЗА МИР

*Пусть в мире мир царит*
*И все народы дружба примиряет,*
*Пусть солнышко всегда блестит*
*И на глазах слёз не бывает.*
*Пусть все народы в счастии живут,*
*Атом на мирный цель возьмут,*
*Пусть чёрный, желтый, белый*
*В надежной дружбе жизнь сплетут,*
*А пушки, ружья и ракеты*
*Все до музея отдадут,*
*Пусть каждый человек свободно дышит*
*И пусть поэт народу пишет.*

Деревушка Рудня,
Старушка
**Екатерина Янушко.**

(Працяг са стар. 4)

## ПЫТАННІ ПА ЛІТАРАТУРЫ НА ВУСНЫ ЭКЗАМЕН ДЛЯ КАНДЫДАТАЎ НА БЕЛАРУСКУЮ ФІЛАЛОГІЮ

31. Вясковая рэчаіснасць у прозе Івана Мележа.
32. Вайна і яе адбітак у чалавечай душы ў прозе Васіля Быкава.
33. Характарыстыка лірыкі Аркадзя Куляшова.
34. Мінулае і сучаснае ў прозе Івана Шамякіна.
35. Характарыстыка даверaснёўскай лірыкі Максіма Танка.
36. Ваенная і пасляваенная паэзія Максіма Танка.
37. Характарыстыка беларускіх літаратурных часопісаў: „Полымя", „Маладосць", „Літаратура і мастацтва".

## ПЕРШЫ РАЗ У „НІВУ" ПРОЗАЙ

Хачу сёння яшчэ раз успомніць пра з'езд карэспандэнтаў. Мне ў маім жыцці многа разоў пападала быць на сходах, на сесіях розных, але ніадкуль не прыязджаў я з такім задавальненнем. У мяне і цяпер у вачах стаяць мілыя, усміхаючыеся твары карэспандэнтаў, якіх упершыню я ўбачыў. Здаецца, што і цяпер рэдактар Валкавыцкая стаіць каля стала і гаворыць, як з кніжкі чытае, і выясняе, што значыць родная мова.

Карэспандэнты, як адна сям'я. Я даўно марыў, каб з імі пазнаёміцца. Я іх уяўляў зусім іначай. Напрыклад. Мароз. Я яго лічыў, што ён такі, як лонская зіма, а ён падобны на вясну ў маі. Байко, малады і інтэлігентны чалавек, а я яго лічыў намнога старэйшым. Лук'янюк, я думаў што ён больш сур'ёзны, а ён усё смяецца. Кастусь здаваўся мне больш старым, а ён на свае гады мае рысы твару прыгожыя і сімпатычныя. Закройшчыка так і лічыў салідным і інтэлігентным чалавекам. Сідарук з-пад Чаромхі з Кірылавым, як браты: вясёлыя і мілыя людзі. Кірылаў пасля далёкай дарогі, а меў такі добры настрой, аж хацелася на яго ўглядацца. Пра ўсіх немагчыма пісаць. Прыемна было бачыць журналістаў „Нівы".

Адносна таго, што я дагэтуль нічога не напісаў пасля з'езду, тлумачу тым, што ведаў, што многа будзе матэрыялаў ад карэспандэнтаў, больш адукаваных і больш амбітных. Дзякую, што мяне не лічыце апошнім. Я яшчэ прозай не пісаў, не ведаю, ці будуць цікавыя. Вельмі ўдзячны, што пытаеце пра маё здароўе. Здароўе пакуль што служыць нязгорш, зіма была выгодная. Але жджэцца вясны...

Усім працаўнікам „Нівы", журналістам, рэдактару і карэспандэнтам жадаю карыснай працы, а шчыраму пісьманосцу Панфілюку — быць карэспандэнтам года за 1980 год!

Калі хто з „Нівы" будзе ў нашай ваколіцы, прашу зайдзіце да Фёдара Хлябіча пад нумарам 9 у Рыбаках.

**Ф. Хлябіч**

## СТАРАННЫЯ ПРАЦАЎНІКІ

Іван Рыбак, сын Яна, і Пятро Галёнка, абодва з Тафілаўцаў — працаўнікі камунальнай гаспадаркі Дубіцкай гміны. Ад 15 кастрычніка да 15 красавіка яны качагары ў будынках гміны і цэнтра здароўя. А летам, калі ўжо няма цэнтральнага ацяплення, яны сочаць за парадкам у нашай гміне, рамантуюць мосцікі на вуліцах, гародзяць платы ў розных дзяржаўных будынках і выконваюць шмат іншай карыснай працы. Усё робяць добра і старанна. На патрэбы гміны яны самі робяць бетонныя вырабы. Больш бы нам такіх старанных людзей!

**М. Панфілюк**

## ВАЖНАЯ АДУКАЦЫЯ

Якую важную ролю адыгрывае сёння сельская гаспадарка, не трэба нікога пераконваць. Каб з году ў год вырастаў большы ўраджай на нашых палях, гаспадары павінны сістэматычна вучыцца. У гэтай важнай адукацыі вялікае значэнне маюць спецыялістычныя газеты.

У мінулым годзе Ваяводская паштовая ўстанова ў Беластоку заняла першае месца ў краіне ў распаўсюджванні часопіса „Аграхімія". З гэтай нагоды адбылася сустрэча, у якой удзельнічалі прадстаўнікі Міністэрства сувязі, рэдакцыя „Аграхіміі", Акруговай дырэкцыі пошты і тэлекамунікацыі, суседніх ваяводстваў — Бяла Падляшска, Ломжа, Астралэнка, Седльцы і Сувалкі.

Прадстаўнік рэдакцыі ўручыў пераходны кубак Беластоцкай ваяводскай паштовай установе.

**В. Брацкі**
**Фота А. Сухаверскай**



*Яніну Сыманюкшціс, дырэктара Ваяводскай паштовай установы ў Беластоку, віншуе намеснік дырэктара дэпартамента паштовай службы Міністэрства сувязі Эдвард Рыхцік.*

## ВЕДАЙ — ЧАКАЙ!

Мароз. Вечар. Амаль 18 градусаў па Цэльсію. Зіма маласнежная, затое марозная. Зоркі гараць, як высакавольтавыя лямпачкі. Гайнаўскі вакзал. Людзей натоўп. Вядома, нядзеля пасля вольнай суботы. Гадзіна 20.48. Рэпрадуктар аб'яўляе спазненне поезда Белавежа-Беласток на 35 мінут. Што падзелаеш? На тое зіма. Цяжка працуецца працаўнікам чыгуначнага руху. Мы ім спачуваем. А падарожныя ўздыхаюць. Хто праклінае, хто вохкае. Хто проста разважае. Пазней, але прыдзе, гэта не аўтобус. І ўсе натоўпам кіруюцца ў пачакальню. Што там 35 мінут! Зляцяць, не ўгледзіш...

Ізноўку ўсе пасажыры валяць на перон! І вось тут зноў загвоздка. Вылупляюць усе вочы ў напрамку Белавежы. А поезда, як не было, так і няма. Між падарожнымі ёсць і дзеці. Самі ведаеце, як яно ёсць, калі наведваеш сваякоў. Дык усёй сям'ёй. А чакалі поезда, (каб ён разбіўся), ведаеце колькі? Поўных 75 мінут. А рэпрадуктар маўчаў, як зачараваны. Людзі таптaлі, скакалі, танцавалі, а рэпрадуктар маўчаў. Можа таму, што дзяжурны не хацеў, каб яго клялі. А мо тут у Гайнаўцы гэта не прынята? То ж вам не Беласток, ці Варшава. Там цябе паінфармуюць, пажадаюць добрай дарогі. Аж на душы пацяплее. Тады і ехаць весялей і мароз не так дакучае, хоць і начакаўся чалавеча. Што ж зробіш, усяляк бывае. Адно пэўна, чакаць доўга поезда гэта карысна. Па-першае — прыпомніш модныя танцы, па-другое — гэта ж спорт, маладзееш.

А калісь-такі дахаты даедзеш.

**Г. Мароз**

## КЛУБ ПЛАЧА

У Парцаве Бельскай гміны клуб ужо чатыры гады існуе. Жыхары перавезлі з Бельска стары будынак за два дні. І за адзін год пабудавалі клуб. І ўсё было б добра, толькі выйшаў адзін недахоп у той рабоце — не зрабілі ў будынку рынны, па якой вада сцякала б на зямлю. Калі ідзе дождж, або растапляецца снег, то вада з даху цячэ проста на сходы і адпырскваецца на сцэны. Уся сцяна ад той вады мокрая. Гаспадары забылі таксама, што трэба зрабіць ганак. Людзі з далейшых сёл, ідучы ў Бельск праз Парцава, смяюцца, што новы клуб плача. Ад вады, якая няспынна цячэ з даху, пазеляненлі і сходы, і фундамент. Парцаўскія гаспадары павінны хутка, як пабудавалі свой клуб, так яго і направіць. Ідзе ж вясна, будзе многа вады.

**Румі**





## ПОШТА

**Ад імя пакрыўджаных гаспадароў вёскі Кашалі — „Наведвальнік".** Вось фрагменты яго пісьма. „У мінулым тыдні ўвечары давялося мне наведаць вёску Кашалі. Вельмі разлеглая гэта вёска. Уязджаеш у яе, як у нейкі цёмны пясчаны тунель, і не заўважаеш, дзе яго пачатак. А ўсё гэта таму, што пачатак вёскі неасветлены". І ў далейшым „Наведвальнік" піша аб тым, што вуліца ў Кашалях асветлена няправідлова, што ўвогуле не асветлены адрэзкі, якія рамантаваліся, але рамонт не закончыўся перад зімою, што ўлады і электраманцёры як хочуць асвятляюць вёску. І наканец пытае: „Чаму пачатак і канец вёскі не асветлены?" Вельмі добра, што „Наведвальнік" паклапаціўся пра вёску Кашалі, бо ў гэтай вялікай вёсцы не знайшлося нікога, хто б сам да нас напісаў.

**Тамашук.** Падабаюцца нам вашы матэрыялы. Толькі аднаго прозвішча нам замала, мы хочам пазнаёміцца з вамі бліжэй. Сардэчна дзякуем за запрашэнне нас прыняць удзел у куліку па лясах і дарогах вакол Крулёвага Мосту. Скарыстаем з гэтага на наступную зіму. Таксама па прычыне вясны запозна было б ужо публікаваць ваш артыкул на гэтую тэму. Думаем, што ўсё гэта зробім лепш, калі дачакаем новай зімы. Напішыце.

**Галіна Івацік,** Гайнаўка. У вершах вашых можна дашукацца цікавых думак. Аднаму з іх мы далі загаловак „Куды ідзеш, чалавек?" і апублікуем яго неўзабаве як парнасікаў дэбют.

**Рышард Бутайла,** Свінауйсце. Шырэйшую ацэнку вашых вершаў („пісаць ці не пісаць", як вы пытаеце), змесцім у наступным нумары. Яе падрыхтуе Міхась Шаховіч, сам паэт і знаўца паэзіі.

**Ольга Данілюк,** Зубава. Вельмі рады атрымліваць такія лісты, з якіх відаць вялікая клапатлівасць дзяцей пра сваіх старых бацькоў, хоць тыя дзеці даўно выйшлі з бацькоўскай хаты і маюць сваю сям'ю. Справай бацькі зоймецца наш журналіст.

**Дамініка Івацік,** Ахрымы, піша: „Дзякую вам за прысланы мне збор твораў Якуба Коласа. Мне вы гэтую кніжку прыслалі як свайму карэспандэнту. Баюся, што слабы з мяне карэспандэнт, мне 80 гадоў хутка. Атрымала я і пісьмо з „Нівы". Калі будзе добрае надвор'е, то прашу, наведайце мяне. Аб кніжцы Коласа хачу сказаць, што тут цікавыя апавяданні пра колішняе жыццё. Старыя людзі ўсё гэта помняць, што так яно было. Маладое пакаленне прачытае і дазнаецца, як калісьці жыла бедната. Хацелася мне пабываць на з'ездзе карэспандэнтаў. Усталі рана, выйшлі на панадворак. Таксоўку замяло снегам, ніводнага следу няма, каб самаход, які ішоў. Пабаяліся ехаць. І яшчэ дзякую інж. Б. Ф. Рудкоўскіну за яго ветлівыя словы, напісаныя мне ў „Ніве". А вось песня мая вам:

За гарамі-крэменямі
Сокалы летають,
Не гуляла ў ойца, мамкі,
Летачка мінают.

Не гуляла ў ойца, мамкі
І ў цебе не буду,
Ой чым жэ я свої лета
Вспомінаці буду.

Запрэгайце, слугі, коні,
Коні вороные,
Ой, гоніце-доганяйце
Лета молодые.

Ой, догналі слугі лета
В каліновом мосці,
Вернецеся, мої лета,
До міне у госці.

Не вернемся, не вернемся,
Бо нема до чого,
Было леток шановаці,
Як здоровя свого.

Імпарттумар

# СМЕЛАСЦЬ

Як толькі я з'явіўся на службу, супрацоўнікі ўтаропіліся на мяне так, быццам я жаніўся з самой Ліз Тэйлар.

Праз дзесяць мінут да майго століка наблізіўся Цемялкоў і жартаўліва ўшчыпнуў мяне за вуха:

— Малайчына, слова гонару, малайчына! Так даць дыхту гэтаму бюракрату! — Тут захоплены яго голас спыніўся, і я прыкмеціў, як здрадніцкая сляза скацілася па яго шчацы. Цемлякоў паківаў галавою і адышоў.

Я ў здзіўленні паціснуў плячыма, адчуваючы на сабе погляды саслужыўцаў.

Праз паўгадзіны з'явілася Вера. Праходзячы побач мяне, яка кінула:

— Прывітанне, гладыятар! Увесь планавы аддзел у маёй асобе вітае цябе! — Дайшоўшы да дзвярэй, Вера спынілася і млява заявіла:

— А я думала, што сапраўдных мужчын ужо не засталося...

Не паспелі дзверы за ёю зачыніцца, як да мяне нячутнымі кашэчымі крокамі падыйшоў Міёнкаў. Ён фамільярна ляпнуў мяне па спіне і зашаптаў:

— Я захоплены табой, калега! Якая смеласць! Я б не адважыўся! Цікава, ці разумееў, на што ідзеш?

— У чым справа? — здзіўлена спытаўся я.

— Святая прастата! Не прыкідвайся, калі ласка! Так даць шэфу! Слоў няма...

І Міёнкаў такжа ціха адыйшоў.

Наступіў абедны перапынак. Стаю ў чарзе ў сталовай, чую — за спіною шушукаюцца:

— Няўжо гэта ён?

— Уяві сабе, уласнай персонай!

Дзіўна!.. На выгляд такі ціхі!..

Толькі ўзяўся за кампот, з'явілася Лена.

— Выбачай, дарагі... Не магла раней... — Яна мякка дакранулася да маёй рукі. — Як я рада, як я рада... Заўсёды лічыла цябе малайчынам. Слова гонару! Увесь наш калектыў толькі аб табе і гаворыць. Гэты няшчасны бюракрат і пустамеля лопне, як толькі прачытае. Так і трэба яму: хай не думае, што калі ён шэф, дык яму ўсё дазволена!

Яна нахілілася і пацалавала мяне ў шчаку. Пацалунак быў куды саладзейшы за кампот. У мяне закружылася ў галаве. Я схапіўся за стол, каб не ўпасці ад шчасця...

Усё-такі здорава, што ў мясцовай газеце надрукавалі маю байку..

**Атанас Дзімітраў** (Балгарыя)



*Чаго ў спорце не бывае!*

### КАЛІСЬ І ЦЯПЕР

— Ой, Іван, Іван, — кажа жонка мужу, які не спускае вачэй з тэлевізара, — раней так ты на мяне глядзеў, а цяпер і не паглянеш у мой бок...

— Дык раней жа ў нас тэлевізара не было, — кажа Іван.



**— Прызнаю крытычныя ўколы толькі з навакаінам.**




### ДОМА

— Я ўжо цяпер не езджу ў камандзіроўкі, — кажа адзін вадзіцель другому. — Знайшоў сабе працу на месцы.

— Ну, і як?

— Цудоўна! Сплю дома, жонка рада, дзеці ўжо пачынаюць бацькам называць, і сабака не рве...

### БЕЗ ГЛУШЫЦЕЛЯ

— Аглаблёвіч! — штурхаюць у бок славутага старшыню, які на нарадах заўсёды ўмудраўся заснуць.

— Га? — устрапянуўся Аглаблёвіч.

— Надзеньце глушыцель, бо вы так храпеце, што не чуваць аратара.

### ЧАМУ ПЕЎНІ СПЯВАЮЦЬ РАНІЦОЙ?

Маленькі Міхасёк пытае ў бацькі:

— Тата, а чаму пеўні спяваюць раніцой?

— Каб пачуць свой уласны голас, бо потым прачнуцца куры...

## МІНІВЕРШЫ

### „ВЕТЛІВЫ" ПАСАЖЫР

Учынак добры ён зрабіў:
Бабульцы месца уступіў,
Ды толькі уступіў таму,
Што час прыйшоў сысці яму.

### ПРЫЕМНАЯ СУСТРЭЧА

— Прабач, не заходжу: нядужы.
Забыўся я ўжо, дзе твой дом.
Давай пацалуемся, дружа, —
Гамонка ішла... пад сталом.

### МОДА ПАДВЯЛА

Дзяўчыну я спытаў нясмела:
— Дзе ж, любая, краса твая?
Чаму за дзень ты пасівела?
— Была ў цырульні ўчора я.

**Мікола Вяршынін**

### ГАРМОНІЯ

— Што такое гармонія?

— Гармонія — гэта калі муж — загадчык магазіна, жонка — бухгалтар, дачка — прадаўшчык, а зяць — экспедытар.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Прыехала да бацькоў дачушка з поўначы. Ды яшчэ і не сама, а з мужам і сынам. Калі выпілі па чарцы, цесць і пытае:

— А колькі ўжо гадоў, як вы пажаніліся?

— Шэсць, папаша, — адказвае зяць.

— Як жа гэта так, — здзівіўся бацька, — калі наша дачка толькі тры гады як з дому?

— Э, нічога вы, папаша, не разумееце! Мы працуем жа на поўначы, а там адзін год за два залічаюць.

✲

— Радавы Свенсан, на вашым мундзіры не хапае аднаго гузіка.

— Вінаваты, пане фельдфебель!

— Можа, вы вырашылі самавольна раззброіцца?!

✲

Кожны раз, калі прапаведнік успамінаў імя д'ябла, адна старая ледзі кланялася. Аднойчы пастар спытаў яе, чаму яна гэта робіць.

Бачыце, — сказала ледзі, — у маім узросце лепш ні з кім не псаваць адносін...

— *Кеплер упэўнены, што гэтай зоркі няма.*

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## КАСЯ

**Словы А. Пашкевіч**
**Музыка І. Лучанка**

Песня з рэпертуару вакальна-інструментальнага ансамбля „Сябры", мастацкі кіраўнік В. Бадзяраў.

*Як лілея на Дунаю,*
*Як пралеска ў белым гаю,*
*Цвіце Кася на ўсю вёску*
*Зоркай яснай, зоркай роснай.*

*Стан танюткі, як былінка —*
*Ну і Кася, ну дзяўчынка!*
*Як царэўна, як багіня,*
*Як нарцыса, як вяргіня.*

*Вочы — неба, броў чарненька —*
*Ах, мая жа ж ты, міленька!*
*Гараць шчокі, з губ — маліны,*
*Не спаткаў такой дзяўчыны!*

*Стан танюткі, як былінка,*
*Ну і Кася, ну дзяўчынка!*
*Як царэўна, як багіня,*
*Як нарцыса, як вяргіня.*

І далей некаторыя радкі яшчэ паўтараюцца, проста такую апрацоўку прапануе мастацкі кіраўнік ансамбля В. Бадзяраў. Песня гэтая на працягу месяца сакавіка гучала ў беларускіх перадачах Польскага радыё ў Беластоку.

З „Весніка Задрыпоніі"

### МУЖЧЫНА Ў ДОМЕ

Сапраўдны мужчынскі падарунак сваёй жонцы на дзень нараджэння зрабіў Сымон Валапюк. Прачнуўшыся раніцай, яна знайшла ў сябе пад падушкай адраманатаваны ім пыласос і палацёр.

### ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЁШКІ

Ці трэба лічыць гэта парушэннем штатнага раскладу, калі цябе трымаюць за дурня?

## ГУМАР З БАРАДОЙ

### ПРЫЕМНАСЦЬ

Паклікаў бедны багатага родзіча ў госці, а той не прыйшоў.

Вось сустрэліся яны, багач і кажа:

— Выбачай, Іван, не мог прыйсці.

А бедны яму:

— А то нічога. Я цябе запрасіў — табе прыемна, ты не прыйшоў — мне прыемна.




### СІЛА ТРАДЫЦЫІ



Гавораць, што ў Англіі з традыцыямі не жартуюць. І ўсё ж... Яшчэ ў сярэдневякоўі ў Лондане было ўстаноўлена правіла: пераганяць авечак па адным з мастоў цераз Цемзу забараняецца. З адным выключэннем: ганаровым грамадзянам горада гэта дазвалялася. Нядаўна нейкі член лонданскага гарадскога савета вырашыў скарыстаць сваё званне ганаровага грамадзяніна і прыгадаць аб старым прывілеі. Ува фраку, з цыліндрам на галаве і з пугай у руках, ён прагнаў па мосце цераз Цемзу стада авечак, закаркаваўшы пры гэтым вулічны рух. А паліцыя? Паліцыя была бяссільная: старое правіла захоўвае законную сілу дагэтуль.

### ЧАС — ЧАКАЕ

У цэнтры горада Дуброўнік (Югаславія) на высокай вежы змешчаны гадзіннік. У гэтым няма нічога дзіўнага: вежавыя куранты існуюць у мностве гарадоў планеты. Здзіўляе іншае: дубровінскі гадзіннік адбівае кожную гадзіну двойчы. Першы раз — тады, калі трэба, а другі — на тры мінуты пазней. Спецыяльна для аматараў спазняцца.

*Без слоў.*




**Калі не знаеце за што ўзяцца, бярыцеся за розум.**